

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

7 КРАСАВІКА 2000г. № 14/4046 КОШТ 80 РУБ.





**10 красавіка спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння геолага, географа, эканаміста, акадэміка Гаўрылы ГАРЭЦКАГА.**

*Матэрыялы, прысвечаныя Гаўрылу Іванавічу, чытайце на стар. 6—7, 14—15.*



# КОЛА ДЗЁН

***Пры Савецкім Саюзе ў Беларусі, як і ва ўсіх рэспубліках былога Саюза, відаць, амаль не было такога студэнта, які б восенню не быў пасланы ў падшэфны калгас выбіраць бульбу. І здавалася б, што былая традыцыя разам з Савецкім Саюзам адышла ў нябыццё, але... У нашай краіне не забыліся, што студэнты могуць не толькі вучыцца, а і працаваць. Да ўсяго не толькі восенню на ўборцы ўраджаю, але і на пасяўной. Так, згодна з пастановай Савета Міністраў "Аб першачарговых мерах па падрыхтоўцы сельскагаспадарчых прадпрыемстваў да веснавых палявых работ і стварэнні трывалай кармавой базы", сёлета да непасрэднага ўдзелу ў пасяўной кампаніі будуць прыцягнуты студэнты трох ВНУ сістэмы Мінсельгасхарчу і 11 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў сельскагаспадарчага профілю. У красавіку ў вёскі плануецца накіраваць звыш 1800 студэнтаў, 3-4 курсаў ВНУ і старэйшых курсаў тэхнікумаў і каледжаў. Моладзі будзе прапанавана ў гаспадарках папрацаваць на пасадах механізатараў, трактарыстаў, тэхнікаў-механікаў, галоўных інжынераў і аграномаў. Мяркуецца, што для большасці моладзі "працоўны семестр" працягнецца да мая. Гэта ўсё не ад салодкага жыцця нашых вёсак, якія з кожным годам "сыходзяць з яснай явы".***

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Дэкларацыі аб сукупным гадавым даходзе на 1 сакавіка падалі 205 тысяч беларускіх падаткаплацельшчыкаў. Прыкладна 84 тысячы грамадзян з гэтай колькасці не з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Па словах намесніка старшыні Дзяржаўнага падатковага камітэта Беларусі Аляксандра Дарашэнкі, плацяжы па даналічанаму на падставе дэкларацыі падаходным падатку павінны быць унесены да 15 мая гэтага года. А. Дарашэнка адзначыў, што далёка не ўсе падаткаплацельшчыкі, якія атрымалі ў мінулым годзе даходы з некалькіх крыніц на суму вышэй за 227 млн. недэнамінаваных рублёў, прадставілі ў падатковыя органы дэкларацыі. Аднак яму цяжка было назваць хоць бы прыкладную іх колькасць, ён толькі сказаў, што такая статыстыка з'явіцца толькі пасля 15 мая. Кіраўніцтва ДПК прадоўжыла тэрмін прадстаўлення дэкларацый аб сукупным гадавым даходзе з 1 сакавіка па 15 мая, пры ўмове, што плацяжы будуць унесены да 15 мая. Словам, заплаці падаткі і спі спакойна!

### ДАКУМЕНТ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма падпісаў дакумент аб стварэнні спецыяльнай рабочай камісіі. Пасля гэтага будзе аб'яўлена канчатковая дата закрыцця Чарнобыльскай АЭС. Пакуль што плануецца закрыць яе ў снежні 2000 года. Па перакананні Леаніда Кучмы, у грамадзян Украіны не павінна быць ніякіх сумненняў у неабходнасці закрыцця ЧАЭС, таму што яе рэактары небяспечныя для далейшай эксплуатацыі. Няўжо небяспечнасць выявілі толькі праз 14 гадоў?

### ЗАКАЗ ТЫДНЯ

Ювеліры гомельскага аб'яднання "Крышталь" па просьбе самога Патрыярха ўсяе Русі Аляксія II вырабілі ордэн Прападобнай Еўфрасінні Полацкай. На прадпрыемстве, у аб'яднанні, якое займаецца перапрацоўкай алмазаў і брыльянтаў, асвоены выпуск усіх ордэнаў і медалёў нашай краіны. Словам, як гаворыцца, калі трэба, дык можам.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, за апошнія пяць гадоў колькасць працуючых пенсіянераў у нашай краіне павялічылася больш чым на 40 тысяч чалавек. Такім чынам, на 1 студзеня на прадпрыемствах, у арганізацыях, установах, калгасах і саўгасах Беларусі працавала 371,6 тыс. чалавек пенсійнага ўзросту, а гэта 9 працэнтаў ад усіх занятых у народнай гаспадарцы грамадзян. Найбольш працуючых пенсіянераў жыве ў Мінску — 93,5 тыс., у Мінскай вобласці — 53,5 тыс., Гомельскай — 52 тыс., Брэсцкай — 45,2 тыс., Гродзенскай — 44,3 тыс., Магілёўскай — 42,1 тыс., у Віцебскай — каля 41 тысячы. Так што, калі б не пенсіянеры, то на многіх працоўных месцах не было б каму і працаваць.

### НАРМІРОЎКА ТЫДНЯ

У мінулую пятніцу закончыўся тэрмін дзеяння сезонных павышаючых каэфіцыентаў да нормаў спажывання электраэнергіі насельніцтвам, што былі ўведзены на зімовы перыяд. Разам з тым плануецца падтрымаць найперш сем'і, якія складаюцца з 1—2 чалавек, зрабіўшы для гэтых спажыўцоў наступныя нормы спажывання электраэнергіі: у жылых дамах з газавымі плітамі — для сем'яў, якія складаюцца з аднаго чалавека, — 80 кВт/ч замест 60, для сем'яў з двух чалавек — таксама 80 кВт/ч замест 75; у жылых дамах з электраплітамі для сем'яў з аднаго чалавека — 150 кВт/ч замест 90, для сем'яў з двух чалавек — 160 кВт/ч замест 145. Міністэрства эканомікі ўжо пагадзілася з гэтымі прапановамі і зараз рыхтуецца адпаведная пастанова.

### ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

У гэтым месяцы органамі сацыяльнай абароны Беларусі праводзіцца пераразлік працоўных пенсій. Падставай для пераразліку з'явіўся рост сярэдняй зарплаты рабочых і служачых у лютым 2000 года ў параўнанні з яе аналагічнай велічынёй у снежні 1999 года, якая выкарыстоўвалася пры папярэднім пераразліку працоўных пенсій, на 18 працэнтаў. У красавіку працоўныя пенсіі будуць налічаны зыходзячы з сярэдняй зарплаты, што была ў лютым і якая складала 43 542 рублі. Максімальная пенсія па ўзросце пры стажы 40 гадоў у жанчын і 45 гадоў у мужчын у працуючых пенсіянераў, якія маюць індывідуальны каэфіцыент заробку 1,3 і вышэй, складзе (без уліку надбавак і павышэнняў) 23 348 рублёў. У непрацуючых пенсіянераў памеры пенсій у красавіку будуць дыферэнцыраваны ад 23 348 да 32 165 рублёў. Але і гэта ці грошы, на якія сёння можна добра жыць...

### ЦЭНЫ ТЫДНЯ

Той, хто ходзіць па крамах, бачыць і адчувае па сваім кашальку, як мяняюцца цэны. Да 1000—1060 рублёў за кілаграм падаражала свініна, да 286 рублёў — цукар, месцамі да 1540 рублёў павялічылася ў цане масла, крыху падаражэлі мінеральная вада і піва. Хлеб "Водар" стаў каштаваць 124 рублі, грэцкія крупы — 780 рублёў за кілаграм. Кошт вараных каўбас вагаецца ад 1400 да 1600 рублёў за кілаграм. Каўбаса "Крывяная" — каштуе 356 рублёў... І здавалася б, што гэта не першае падаражанне і, відаць, не апошняе і пара б ужо людзям да гэтага прывыкнуць, але не не ды чуеш у чэргах: "Калі ўжо гэта ўсё скончыцца!"

### ВЕСТКА ТЫДНЯ

З кожным годам на дарогах нашай краіны ўсё болей замежных аўтамабіляў. Іх, відаць, яшчэ паболее, бо ў Беларусь прыйшла вестка, што з 1 студзеня наступнага года з дарог Польшчы павінны знікнуць 3 мільёны легкавушак, якія праездзілі больш за 10 гадоў. Адным словам, рыхтуйце хлопцы даляры і вашы пра машыну спонуцца мары!

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На вечарыну, прысвечаную 160-годдзю Францішка Багушэвіча, у Доме літаратара сабраліся ўдзельнікі семінара маладых пісьменнікаў, які адкрываўся ў гэты дзень, пісьменнікі, літаратуразнаўцы, супрацоўнікі музеяў сталіцы, школьнікі, студэнты. Адкрыла і вяла вечарыну Вольга Іпатава. Сярод выступоўцаў былі Уладзімір Содаль, Язэп Янушкевіч, вершы Ф. Багушэвіча чыталі артысты У. Мішчанчук, Г. Дзягілева, М. Макарцоў. З музычнай праграмай выступіў фальклорны гурт "Валошкі" мінскага завода "Гарызонт". У пісьменніцкай бібліятэцы адкрылася выстава, прысвечаная жыццёваму і творчаму шляху класіка беларускай літаратуры.

●

Першым этапам супрацоўніцтва нашага творчага саюза з Ільянскай сярэдняй школай Вілейскага раёна стала сустрэча з вучнямі і настаўнікамі навучальнай установы ў музеі Максіма Багдановіча, куды ў час школьных канікулаў завіталі госці з Вілейшчыны. На сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі прыйшоў вядомы паэт Уладзімір Карызна. Ён пазнаёміў гасцей са сваёй творчасцю, адказаў на пытанні прысутных. Такія сустрэчы будуць працягвацца.

●

Яркае незабыўнае ўражанне на ўдзельнікаў семінара маладых пісьменнікаў, які адкрыўся 28 сакавіка ў Доме літаратара, зрабіла выступленне народных пісьменнікаў Беларусі Янкі Брыля і Ніла Гілевіча. У сваім слове слынныя майстры пяра не толькі далі наказ маладым творцам, яны вобразна і цікава распавялі пра свой творчы і жыццёвы шлях, пра тое, як яны самі ўдзельнічалі ў падобных семінарах. Шмат карыснага для маладых было і ў выступленнях дырэктараў выдавецтваў "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва" Г. Марчука і А. Камароўскага, галоўных рэдактараў часопісаў "Полымя", "Маладосць", "Крыніца" С. Законнікава, Г. Далідовіча, Г. Булыкі, намесніка рэдактара часопіса "Нёман" В. Праўдзіна, галоўнага рэдактара часопіса "Вожык" старшыні прыёмнай камісіі Саюза пісьменнікаў В. Блакіта.

Кіраўнікамі секцый на семінары былі В. Іпатава, Л. Дранько-Майсюк, Г. Каржанеўская, А. Масарэнка, Н. Гальпяровіч, Л. Караічаў, В. Жуковіч, А. Федарэнка, Б. Пятровіч.

У рабоце семінара прынялі ўдзел старшыні Камітэтаў па друку і па справах моладзі М. Падгайны, А. Пазняк, першы намеснік старшыні Камітэта па друку пісьменнік У. Глушакоў, першы намеснік старшыні Беларускага фонду культуры Л. Касяк.

Больш падрабязна пра семінар маладых літаратараў чытайце ў матэрыяле нашага спецыяльнага карэспандэнта.

●

Не толькі адпачываць, але і прайсці курс лячэння можна будзе з 17 красавіка ў санаторыі-прафілакторыі пісьменнікаў "Іслач". Міністэрства аховы здароўя выдала ліцэнзію на аздараўленне і лячэнне захворванняў страўніка-ва-кішэчнага тракту, ачышчэнне арганізму з выкарыстаннем лекавых траў, дыетычнага харчавання, лячэбнай фізкультуры. Ажыццяўляць курс лячэння будуць вопытныя медыкі, якія прайшлі спецыялізацыю ў дадзеным накірунку.

Калектыў пісьменніцкай здраўніцы гатовы аказаць паслугі не толькі пісьменнікам і членам іх сем'яў, але і ўсім жадаючым прыехаць у маляўнічы лясны куток на беразе ракі Іслач.

**Н. К.**

НАДЗЁННАЕ

# Ля помніка Максіму Багдановічу

***Калі я йшоў скрозь***
***тую арку,***
***Дзе колісь дом Яго стаяў,***
***Грачыны грай грымеў***
***над паркам***
***І снежным пухам ападаў***
***На тэатральны дах пакаты,***
***Тралейбус, што імклівa бег,***
***На рэштткі выцвілых***
***плакатаў***
***З аскомінным "Вперед к побе...",***
***На кроны дрэў***
***маркотна-зімных,***
***На шпіль, што высіўся здалёк,***
***На твар зажураны Максіма,***
***Яго настылы васілёк.***
***Здавалася, канца не будзе***
***Вятрам, што сівер валакуць,***
***Хоць сакавік ужо — не студзень,***
***Хоць гэта Мінск, а не Якуцк.***
***Было няўтульна,***
***золка, сумна...***
***Ды тут — усім вятрам назло —***
***На пляц Парыжскае камуны***
***Людское мора прыплыло.***
***О дзень жаданы***
***Звеставання!***
***Світальнай вестачкі каўток.***
***Надзей вясновых клекатанне.***
***Буслінай радасці выток.***
***Куды настрой***
***падзеўся горкі?!***
***Развеяліся страху сны***
***Ад першай роднае гаворкі,***
***Ад блізкай — з жарсцю — гаманы***
***Парадавацца з намі ўсімі***
***З-за хмараў выглянуў прамень.***
***Няўжо, няўжо настаў,***
***Максіме,***
***Твой залацісты,***
***ясны дзень?..***

**Вячаслаў РАГОЙША**

ІМПРЭЗЫ

# Карабель пад назвай "Мінск-2000"

## 5 КРАСАВІКА Ў СТАЛІЦЫ ЎРАЧЫСТА АДКРЫЎСЯ МІЖНАРОДНЫ КОНКУРС ПІЯНІСТАЎ

Мелодыя песні У. Алоўнікава "Радзіма, мая дарагая", нараджаючыся ў святочным гучанні фартэпіяна, запаўняла Вялікую залу філармоніі. Пад гэтыя кранальныя пазыўныя павольна расхінулася заслона — і галоўная падзея, якою амаль два тыдні будзе жыць наш музычны свет, пачалася.

Старшыня аргкамітэта конкурсу "Мінск-2000" першы намеснік міністра культуры Беларусі У. Рылатка, адкрываючы міжнароднае спаборніцтва маладых музыкантаў, зачытаў прывітальны зварот Прэзідэнта краіны А. Лукашэнкі да ўдзельнікаў гэтага сур'ёзнага творчага турніру — з пажаданнем поспехаў і перамог. Было прадстаўлена журы на чале з народным артыстам Беларусі прафесарам І. Алоўнікавым, а таксама аўтары твораў, уключаных у праграму І-га тура як абавязковыя для выканання, — кампазітары Г. Кароткіна, А. Літвіноўскі, піяніст Ю. Бліноў.

Адбылося знаёмства публікі з канкурсантамі, якіх замест 83 чаканых засталося 42. Невытлумачальны пакуль што "адсеў" збянтэжыў хіба толькі журналістаў, бо для ўсіх, спрычыненых да фартэпіяннага марафона, такое істотнае скарачэнне колькасці ўдзельнікаў прынесла пэўную палёгку. Хаця б у тым, што графік праслухоўванняў першага тура зрабіўся менш напружаным, і першаму канкурсанту давялося выступаць назаўтра не а 10-й раніцы, а ў 13.00.

Урэшце, не колькасцю, а якасцю вызначаюцца з'явы ў мастацтве. Конкурс пацвердзіў свой годны прафесійны ўзровень і міжнародны статус — высокімі патрабаваннямі праграмы, аўтарытэтам піяністаў, прадстаўленых у журы.

Дарэчы, афіцыйную цырымонію выдатна дапоўніў сольны канцэрт нашага госця, аднаго з лаўрэатаў І Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага, прафесара са Злучаных Штатаў Амерыкі Д. Полака, які ўдзельнічае ў працы журы. Ён іграў творы Ф. Шапэна: 2-ю санату з уражлівым знакамітым жалобным маршам; Рэ-бемоль мажорны накцюрн з эфектнымі гукавымі іскрынкамі ці то "кропелек вады на вясле", ці то "мігатлівых зорак у начным небе", ці то "загадкавых светлякоў у роснай начной траве". Нон-стопам выканаў тры рознахарактарныя эцюды. Тройчы бісіраваў...

Прафесар Нацыянальнай музычнай акадэміі Украіны імя П. Чайкоўскага В. Казлоў адзначыў, што конкурс "Мінск-2000", як карабель, выпраўляецца ў плаванне, і на гэтым шляху можа быць рознае. Яно і праўда: конкурс — гэта заўсёды нечаканасці, адкрыцці, расчараванні, а мо і сенсацыі. Днямі даведаемся пра вынікі І тура і з цікавасцю спартовых балельшчыкаў будзем сачыць за далейшым рухам конкурснага карабля...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*На здымку: Дэніэл ПОЛАК.*

# Узнагароджаны граматамі

Адбылося пасяджэнне рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі. Даклад аб рабоце камісіі за справаздачны перыяд зрабіў яе старшыня Ігар Лучанок, які разам з іншымі арганізацыямі адзначыў станоўчую работу ваенна-шэфскай камісіі СБП.

У спрэчках па дакладзе выступілі Анатоль Сульянаў (намеснік старшыні), Алесь Савіцкі, Пятро Прыходзька, Яўген Каршукоў, Алесь Махнач. За актыўную работу па духоўна-маральным, патрыятычным выхаванні і культурна-мастацкім абслугоўванні асабовага складу Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь пяцёра былі ўзнагароджаны граматамі Міністэрства абароны РБ.

**Я. ІВАНОЎ**

## Памяці Аркадзя Куляшова

**25—26 сакавіка мінулага года ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. Куляшова адбылася навуковая канферэнцыя "Актуальныя праблемы беларускага літаратуразнаўства", прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння народнага пісьменніка Беларусі Аркадзя Куляшова.**

**Канферэнцыя была арганізавана філалагічным факультэтам МДУ імя А. Куляшова і Магілёўскай гарадской радай "Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны". На жаль, правядзенне канферэнцыі не было ўключана ў план навуковых мерапрыемстваў Міністэрства адукацыі РБ на 1999 г., паколькі ў лютым таго ж года ў МДУ імя А. Куляшова праводзілася Міжнародная навуковая канферэнцыя з нагоды юбілею вядомага педагога-матэматыка Абрама Столяра, які калісьці працаваў у Магілёве. Кіраўніцтву МДУ імя А. Куляшова давялося выбіраць нешта адно, і перавага была аддадзена юбілею прафесара А. Столяра, нягледзячы на тое, што Магілёўскі універсітэт носіць імя Аркадзя Куляшова. Дзіўна, але і ў межах самога універсітэта было адмоўлена ў фінансаванні канферэнцыі, таму яна была праведзена за кошт сродкаў Магілёўскай гарадской рады ТБМ і прыватных ахвяраванняў. У канферэнцыі ўдзельнічала больш за 100 навукоўцаў з усіх рэгіёнаў рэспублікі. Па выніках канферэнцыі быў падрыхтаваны зборнік навуковых прац "Праблемы беларускага літаратуразнаўства. (Да 85-годдзя з дня нараджэння Аркадзя Куляшова)", але зноў жа, наколькі канферэнцыя не патрапіла ў план навуковых мерапрыемстваў МДУ імя А. Куляшова, намеснік рэктара універсітэта па навуковай працы адмовіў у друкаванні зборніка. Сябрамі Магілёўскага таварыства інтэлектуальных і культурных ініцыятыў "Брама" на грамадскіх пачатках былі зроблены рэдагаванне, карэктура, арыгінал-макет і мастацкае афармленне куляшоўскага зборніка. Зараз Магілёўская гарадская рада ТБМ шукае грошы на яго выданне і вымушана звяртацца да недзяржаўных спонсараў з просьбай аб дапамозе. Ужо абяцала дапамагчы Магілёўскае грамадскае аб'яднанне "Кола сяброў". Што ж, чыноўнікам зноў аказваюцца непатрэбнымі выдатныя дзеячы беларускай літаратуры, пра якіх, дзякуй Богу, не забывае беларускі чытач.**

**Яраслаў КЛІМУЦЬ,**
**старшыня Магілёўскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы**

## Сустрэча ў Жылічах

**Пра Жыліцкі палацава-паркавы ансамбль можна прачытаць у "Слоўніку геаграфічным каралеўства Польскага" (1881). Паведамляецца, што Ігнацы Булгак "...узнёс тут нечуванай раскошы палац з сотняй пакояў, з прыватнай капелай і ўпрыгожыў палац мастацтвам".**

**Пагадзіцеся, жыць у Жылічах і быць абыякавым да гісторыі Айчыны, да беларускай культуры проста нельга.**

**Перакананы ў гэтым і ў калектыве Жыліцкай сярэдняй школы. Менавіта для яе вучняў падрыхтаваны і вядзецца спецкурс па этнаграфіі Беларусі (а апякуецца гэтым настаўніца гісторыі Валянціна Герасімава). Невыпадковым падаецца і нядаўнае мерапрыемства, што прайшло ў школе (а ладзілі яго самі вучні з настаўнікамі), — літаратурна-мастацкая кампазіцыя, на працягу якой вядучыя дапамаглі гледачам высвеціць многія пытанні ўсебеларускай і мясцовай гісторыі. Ролю Паўлінкі выконвала намеснік дырэктара школы па выхаваўчай рабоце Наталля Лук'янава. Несцеркі — сацыяльны педагог Анатоль Пензь.**

**Літаратурна-мастацкай кампазіцыі папярэднічала сустрэча школьнікаў з пісьменнікамі. У Жылічы завіталі празаік Уладзімір Саламаха (ён, між іншым, родам з Кіраўскай зямлі — нарадзіўся ў вёсцы Берасенёўка) і галоўны рэдактар газеты "Чырвоная змена", краязнаўца Алесь Карлюкевіч. У. Саламаха расказаў пра сваю повязь з роднай зямлёй, зазначыў, што многія героі яго кніг — адсюль, з Кіраўшчыны. А. Карлюкевіч пазнаёміў настаўнікаў, вучняў з беларускай маладзёжнай газетай, распавёў пра літаратурныя, асветніцкія праекты "Чырвонай змены".**

**Святлана ТУРЫНСКАЯ**

СЕМІНАРЫ

# "Добразычлівасць — гэта прыемна"

У мінулым годзе семінарысты паспелі вылепіць тут апошняга снегавіка. Зараз ад зімы засталіся толькі лапіны снегу ды сіберны вецер. Нямногія выбраліся паглядзець звілістую рачулку — грэліся ў Доме творчасці "Іслач", які і на гэты раз зычліва прыняў творчую змену.

Але пачаўся чарговы семінар маладых на Фрунзе, 5 у вялікай зале былога Дома літаратара. Пасля прывітальнага слова "жывых класікаў" Янкі Брыля і Ніла Гілевіча адбылося ўручэнне літаратурных прэмій ад Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі. Не лепшай данінай традыцыі — з улікам невялікага тэрміну семінара — уяўляецца зацягнутая прэзентацыя рэспубліканскіх газет і часопісаў. Выступленні галоўных рэдактараў і проста супрацоўнікаў зводзіліся ў асноўным да рэкламнай інфармацыі і дзяжурнага закліку "Пішыце і прыносьце". На практыцы гэта абарочваецца тым, што для вылучэння на маладзёжныя прэміі ў выданнях з цяжкасцю знаходзяць публікацыі аўтараў, якім да 30-ці гадоў. На будучае такія сустрэчы з беларускімі СМІ варта праводзіць у нефармальнай абстаноўцы — каб яны не проста займалі месца ў праграме, а мелі рэальную карысць. Заўважым, да таго ж, што прэса вялікай цікавасці да падзеі не праявіла — калі не лічыць папярэдняй публікацыі ў "Чырвонай змене" і прысутнасці некалькіх карэспандэнтаў, сярод іх і фотакар "Звязды" Яўген Пясецкі, які па ўласнай ініцыятыве (ці па закліку паэтычнай душы) здымае для гісторыі імгненні літаратурнага жыцця.

Кіравалі на гэты раз семінарскімі групамі в.а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Іпатава, намеснік старшыні Н. Гальпяровіч, В. Жуковіч, Л. Дранько-Майсюк, Б. Пятровіч, А. Масарэнка, Л. Караічаў, Я. Каршукоў і аўтар гэтых нататкаў. Н. Загорская, якая хораша завяршыла ўступную частку, прывяла з сабой студэнтаў БУКа, якія актыўна ўдзельнічалі ў абмеркаванні творчасці і паказалі неблагую тэарэтычную падрыхтоўку.

Ад мінулагодняга семінар маладых адрозніваўся не толькі сціплым фінансаваннем (з-за чаго і давялося ўкласціся ў два дні), але таксама жанравай разнастайнасцю твораў (былі прадстаўлены крытыка і драматургія) і лепшай арганізацыяй: паменела багемы і "бурапены", за прынцып узялі адкрыццё новых імён. Сур'ёзным камплектаваннем і адсутнасцю выпадковых людзей семінар абавязаны, несумненна, Алесю Масарэнку. Ён мае талент аб'ядноўваць вакол сябе маладых творцаў і прызначаны не так даўно кансультантам Саюза пісьменнікаў.

Секцыйнымі заняткамі на "Іслачы" былі задаволены і маладыя, і старэйшыя. Нават пры недахопе часу ўдалося ўдзяліць увагу ўсім. Мелі месца дыскусіі, сутыкненні процілеглых думак і воплескі пры асабліва трапных рэпліках, балючае пераадоленне творчай герметычнасці тымі, хто падзяляе погляды якойсьці вузкай суполкі. У прыватнасці, на адной з творчых груп былі аспрэчаны прэтэнзіі мясцовага постмадэрнізму — на прыкладзе бум-бам-літаўцаў — на ролю вядучага літаратурнага напрамку, прызванага, як пісала адна аўтарка, асэнсаваць і падагуліць усе літаратурныя і філасофскія дасягненні XX—XXI стагоддзяў. Што б хто ні думаў сам пра сябе, як бы ні імкнуўся ўразіць публіку, але забяспечанасць мастацкага слова залатым запасам душы была і будзе найпершым крытэрыем яго сапраўднасці.



*Алесь МАСАРЭНКА з выхаванцамі.*



*Творчы шпацыр. У цэнтры — Н. ГАЛЬПЯРОВІЧ і В. ІПАТАВА.*

"Мы не можам ведаць, хто з вас, маладых, застанецца ў літаратуры, — гаварыла на падвядзенні вынікаў Вольга Іпатава. — Галоўнае, што вы будзеце абаронцамі роднага слова, носьбітамі самабытнасці". Старшыня Дзяржкамдруку М. Падгайны са шкадаваннем зазначаў, што згублены сувязі з суседзямі (кнігаабмен, творчыя сустрэчы, пераклады) і прапанаваў выдаць зборнік з твораў семінарыстаў, што было сустрэта з энтузіязмам.

Прывяду некалькі водгукаў удзельнікаў семінара.

**Ірына ДАРАФЕЙЧУК** (Віцебск), паэтка, лаўрэатка маладзёжнай прэміі: "Адзіны хіб сёлетняга семінара — недахоп часу. Столькі цікавых людзей сабралася, з усімі ахвота бліжэй пазнаёміцца — і некалі. Мне і летась, і цяпер пашанцавала з кіраўнікамі: добразычлівыя, з бацькоўскім стаўленнем людзі. Заўважыла, што значна амаладзіўся склад удзельнікаў, стала больш першакурснікаў і школьнікаў. Пашкадавала нават: калі б мне ў свой час такую падтрымку і крытыку, то я на сёння мела б большыя набыткі".

**Ігар СКРЫПКА** (Слуцк), драматург: "Дзіўная рэч! Сабраліся ўсе незнаёмыя, і ў той жа час усе свае! Мабыць, таму так лёгка было кантактавацца. Усеагульная добразычлівасць — гэта прыемна".

**Андрэй ЛЮБЫ** (Мінск), паэт: "Галоўнае, што даюць такія сустрэчы — магчымасць бачыць сябе на агульным фоне. І недахопы свае, і вартасці..."

...Ужо на зваротнай дарозе я знайшла ў рукапісе студэнткі з Магілёва Алены Колік наступны верш:

***Літаратурная дарога***
***Сапраўдных бачыла нямнога.***
***Яны не могуць па заказу***
***Паэму напісаць адразу.***
***Паэт з душою верш злівае,***
***І слова гучнасць набывае.***

Гэтая ж аўтарка, выказаўшы падзяку Саюзу пісьменнікаў і Літфонду за арганізацыю "курсаў павышэння кваліфікацыі", пажадала свайм таварышам добрых твораў, добрых настаўнікаў і рэдактараў. "Настаўнік — гэта само жыццё", — ціхенька адгукнуўся хтосьці за спіною...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фотарэпартаж Яўгена ПЯСЕЦКАГА*

ВЕЧАРЫНЫ

# Пацеркі Іны Снарскай

Чароўныя гукі скрыпкі напаўняюць залу, лунаюць у паветры, імкнуцца ўверх, да высокай столі, да нізкіх аблокаў, вырываюцца на прастор...

Так пачалася творчая вечарына маладой паэткі Іны Снарскай, што адбылася ў апошні дзень сакавіка ў Саюзе беларускіх кампазітараў.

Шлях І. Снарскай у літаратуру пачаўся ў наваполацкім літаратурным аб'яднанні "Крыніца", якім кіраваў гісторык і пісьменнік Уладзімір Арлоў і дзе гуртавалася таленавітая моладзь, апантаная прагай дзейнасці на карысць айчыннай культуры. Даўно развіталася паэтка з радзімай, але і сёння ляціць душа на Беларусь, поўніцца таямнічымі ўспамінамі, адмысловымі снамі, глыбіннымі пачуццямі, дзе шчыльна сплятаюцца мінулае і будучыня, гісторыя і сучаснасць, быццё і нябыт, стваючы тую дзівосную субстанцыю, з якой, уласна кажучы, і нараджаецца сапраўдная паэзія. Туга па родных мясцінах, вялікае прыцягненне і веліч Полацка выклікаюць да жыцця светлыя, добрыя, заснаваныя на нечым медытатыўна-асабістым і падсвядомым, вершы. Прасякнутая драматычным асэнсаваннем рэчаіснасці, сваёй ролі і прызначэння ў свеце, усведамленнем лучнасці ўласнага "эго" з бязмежжам сусвету ў адзінстве і супрацьлегласці ўсяго існага — ад раю да апраметнай — паэзія Снарскай выяўляе сакральную сутнасць асобы, яднае дзень і ноч, зямлю і неба, святло і цемру.

Іна Снарская — аўтарка вершаваных зборнікаў "Пацеркі" і "Мая птушка". Падрыхтавана да друку і чакае свайго чытача кніга паэзіі "Лясная панна". На Украіне, чыя багатая гісторыя і высокі дух жывяць творчыя сілы паэткі, І. Снарская вядзе актыўную працу па прапагандзе беларускага слова, часта выступае ў розных аўдыторыях.

Падчас імпрэзы прагучалі песні І. Лучанка, У. Будніка, І. Лашуткі ў выкананні салістаў ансамбля "Свята" В. Статкевіча і Ю. Гіпкоўскай, студэнткі Л. Лапцэвіч, выкладчыцы школы мастацтваў з Вілейкі Т. Захарыч.

**Марыя РУДОВІЧ**

***Некалькі гадоў таму мая даўняя сяброўка і каляжанка, пісьменніца Галіна Багданава назвала "люмпенскай рэвалюцыяй" тыя негатыўныя працэсы, якія акрэсліліся ў нашым грамадстве на пачатку 90-х гадоў. Яе словы я ўспамінаю досыць часта.***

***І калі бачу, што з кожным годам у горадзе расце колькасць "брытагаловых", людзей бандыцкага выгляду.***

***І калі бачу каля кожнага магазіна зранку і ўвечар літаральна зграі — іначай і не скажаш — тых, хто скідваецца, у каго на бутэльку не хапае. А ў гэтых "зграях" усё большае вульгарных, нецвярозых жаночых твараў.***

***І калі бачу старых, якія корпаюцца ў вялікіх скрынях са смеццем, што стаяць каля кожнага дома. Корпаюцца з надзеяй што-небудзь знайсці.***

***І калі бачу жабракоў, якія просяць міласціну ў падземных пераходах метро. Або тамсама бачу жанчын з маленькімі дзецьмі на руках, якія сядзяць на халоднай бетоннай падлозе, падклаўшы пад сябе кардонку або нейкую анучу. І таксама просяць міласціну.***

***І калі бачу, як у парку двое старых — дзядзька і цётка — сварацца і ледзь не б'юцца з-за таго, каму трапіць у рукі пустая бутэлька, кінутая ў кустах. Падобна на тое, што гарадскія паркі, скверы, даўно падзелены на зоны. І кожны збірае "ўлоў" менавіта ў сваёй зоне.***

***І калі на вуліцах горада, у транспарце, у магазіне бясконца чую мацюкі. Уражанне такое, што літаратурная мова засталася толькі для літаратуры, для школьных падручнікаў. Яшчэ для газет, радыё і тэлебачання. А ўсе, хто ведаюць нарматыўную лексіку, ці пра яе забыліся, ці зрабіліся нямымі. Гучыць мат. На ўсе літары алфавіта. Сакавіта. Ажно на каўняры вісіць. Лаюцца пры дзецях, пры жанчынах. Ніхто нікога не саромеецца. Ніхто нікога не баіцца. Раней — тры, пяць, дзесяць гадоў таму — стрымліваліся. Цяпер як быццам усе тармазы адключаны. Лексіка турмы, калоніі, зоны гучыць усюды і паўсюль.***

***Уражанне такое, што паступовая і непрыкметная люмпенізацыя краіны ідзе штодня, поўным ходам. Бо штодня бачыш люмпенскія норавы і ўзоры паводзін. І таму — колькі абразкоў з той рэчаіснасці, якая вакол нас. Усе яны, на жаль — карцінкі з натуры.***

Таццяна МУШЫНСКАЯ

# Штрыхі да партрэта эпохі "люмпенскай рэвалюцыі"

Май. Канец навучальнага года. Ужо аб'яўлены адзнакі. Адбыўся ўрачысты сход. Настаўнікі павіншавалі дзяцей, бацькі і дзеці — настаўнікаў. Адзін з вучняў, амаль выдатнік, не можа знайсці свой дзённік з выстаўленымі чацвяртнымі і гадавымі адзнакамі. Знік, нібы яго і не было. Прапажа выявілася праз некалькі дзён. Адзін з вучняў гэтага ж класа кажа з насмешачкай:

— Хадзем я табе пакажу, дзе твой дзённік.

Абышлі школу. Там — канава. У канаве і ляжыць дзённік. Вокладка парэзана. І спісана словамі з трох літар. Гэтыя словы — на кожнай старонцы або праз адну. Там, дзе ў дзённіку напісана "канікулы" — наўскасяк надпіс: "Абыдзешся!" І амаль кожная старонка пашкамутанага на дробныя кавалачкі, нібыта яе дралі мышы.

Нявечылі чужы дзённік двое хлапчукоў. Вучацца яны ўвогуле няблага, абодва вельмі добра малююць. Адзін з іх у дадатак займаецца ў музычнай школе. Падлеткам па 12 гадоў. Як патлумачыць іх беспрычынную агрэсію?

Мне здаецца, што дарослыя, занятыя сваімі сур'ёзнымі справамі і з дзецьмі прафесійна штодзённа не звязаныя (як, напрыклад, педагогі і ўрачы), сваё ўяўленне пра сучасных дзяцей фарміруюць на аснове літаратурных твораў ці артыкулаў у газетах. Ці на аснове кінафільмаў або нават фатаграфій у газетах. Там — вобразы. Там дзеткі чысценькія, акуратненькія, дасціпныя, здольныя, захопленыя. А ў рэальнасці, яны, гэтыя дзеці, вельмі розныя. І святло ў іхніх душах вельмі часта пераблытана з цемрай. Кніга вучыць аднаму, а навакольнае жыццё дужа часта кніжнаму пярэчыць.

Трэці клас. Пачатак верасня. Хлопчыкі на перапынку абмяркоўваюць — цяжка сказаць, ці жартам, ці ўсур'ёз — за якую суму грошай дзяўчынкі распрануцца. Ці хаця б спадніцы падымуць. А вы мне кажаце — Пушкін! "Я помню чудное мгновенье!"

Але што патрабаваць ад дзяцей! Яны — прадукт, вынік таго, што бачаць, чуюць вакол сябе.

Хлопчыку восем гадоў. Пераключае тэлевізійныя каналы і каменціруе:

— Толькі на двух каналах — "Культура" і "ТВ-Масква" голых цётак не паказваюць.

Гарадская інфекцыйная бальніца. У дзіцячае аддзяленне кладуць не толькі дзяцей, але і падлеткаў дванаццаці — чатырнаццаці гадоў. Сын расказвае: дзяўчаты з суседніх палат літаральна ловяць хлопцаў. І цягнуць у ложак. Каб "навучыць" усяму таму, што тыя, магчыма, яшчэ не ведаюць. Хлопцы або ўцякаюць у калідор, або хаваюцца ў туалеце ці суседніх палатах.

Пакуль размаўляем, у палату сапраўды зазіраюць дзяўчаты — вочы і вусны ярка падфарбаваныя. Незразумела, ці то яны ў бальніцы, ці то на дыскатэку сабраліся.

Паставая медсястра расказвае, што з цяперашнімі падлеткамі вельмі цяжка. Дзяўчына можа нафарбаваныя вусны выцерці фіранкамі, якія вісяць на вокнах. Не слухаюцца. Нахаміць могуць, нават не задумваючыся.

А паспрабуеш зрабіць заўвагу, дык накрыўджаныя паненкі гадоў пятнаццаці прыводзяць сваіх "кавалераў". Рост — метр дзевяноста. Узрост — гадоў дваццаць-дваццаць пяць. Амбал з выгляду. Паненка прыводзіць, каб "разабраўся" з медсястрой. Маўляў, будзеш "наязджаць", — адпомсцім.

А вакол інфекцыйнай бальніцы, што на вуліцы Якубоўскага, — пустка. Недалёка — лес, бязлюддзе. Вядома, не па сабе зробіцца. І дактарам няма калі разбірацца ва ўзаемаадносінах падлеткаў. Дактарам лячыць трэба. Вось так.

Амаль побач з маім домам будынак школы. Жнівень. Перад пачаткам навучальнага года ў школе робяць рамонт, заліваюць смалой дах. Работа ідзе ў дзве змены — зранку і да цемнаты. На даху працаваць цяжка, што і казаць. І сонца смаліць, і смала разагрэтая. Рамонтнікі трымаюць каля сябе або магнітафон, або прыёмнік. Відаць, немалой магутнасці. Бо песні, якія яны круцяць, гучаць ці не на ўвесь мікрараён. Выбар "твораў" невялікі — пераважна адно і тое ж. На працягу аднаго і таго ж дня гучыць разоў шэсць:

***"Ты скажи, ты скажи,***
***Чё те надо, чё те надо.***
***Я те дам, я те дам,***
***Чё ты хошь, чё ты хошь..."***

Пад вечар думаеш: колькі дзён трэба "круціць" гэтую песню, каб тыя, хто вымушаны слухаць, звар'яцелі канчаткова?

Мне расказвалі, што ў Італіі тынкоўшчыкі ці маляры оперныя арыі спяваюць, калі фасады рамантуюць. Як бы гэта памянялася — малярамі, тынкоўшчыкамі? Ці наогул рамонтнымі рабочымі?

Матная лексіка ўсё часцей пранікае ў школу. І што самае страшнае — яна ўспрымаецца як норма. Як звыклы фон. Як прыказка, без якой не абысціся. Калі ўсе вакол так гавораць, дык чаму мне нельга?

Класы, у якіх вучацца абодва мае сыны, не горшыя ў сваіх паралелях і ў школе. А можа, нават і лепшыя.

Сын кажа:

— У нашым класе матам не лаюцца толькі некалькі чалавек. Усе астатнія — ну столькі ведаюць... А ніколі-ніколі не лаецца ў нас толькі адзін Воўка.

Глянеш на гэтых хлопчыкаў — мілыя, сімпатычныя. Вершы вучаць — і на беларускай мове, і на рускай, і на замежнай, займаюцца музыкай і маляваннем, спортам, наведваюць гурткі і г. д. Дзеці і падлеткі цудоўна ведаюць, што пры дарослых лаяцца не трэба. І пры настаўніцы, і пры бацьках яны гэтага рабіць не будуць. А паміж сабой — можна...

У класе другога сына ніколі не лаюцца таксама некалькі чалавек. Адзін хлопчык — з сям'і вернікаў. А рэлігія, як вядома, мацюкацца не дазваляе. У класе да яго ўвогуле ставяцца добра, але пасмейваюцца з ягонай шчырай рэлігійнасці. Называюць "міратворцам", бо як толькі нехта пачынае біцца — не жартам, а ўсур'ёз, ён кідаецца разнімаць.

Школа. Хлопчык пытаецца ў дзяўчынкі, якая яму відавочна падабаецца:

— Светка, а ты еще девственница?

Светка тая размахнулася — і лясь па твары. А хлопец і не надта пакрыўдзіўся. Смяецца. А праз дзень пытаецца пра тое самае.

Хлопчык з візітам вельмі сімпатычны. І дзяўчынка сімпатычная. Пяты клас. Пра што яны будуць адзін у аднаго ў восьмым пытацца?

У школе нечарговы, пазапланавы бацькоўскі сход. Прычына? Усе хлопчыкі класа напісалі заяву: "Просім замяніць нам выкладчыка фізкультуры". Напісалі на лістку са школьнага сшытка і прынеслі да дзвярэй арганізатара пазакласнай работы, на якіх напісана: "Прапановы". Там і пакінулі. У іх жа — прапанова!

Першая рэакцыя настаўнікаў — абурэнне. "Як яны маглі?! Як яны пасмелі?!" На сходзе называюць заяву даносам, а тых, хто пісаў, — даносчыкамі.

А між тым канфлікт паміж вучнямі і настаўнікам фізкультуры наспяваў даўно. Вучні, вядома, не анёлы. Калі іх трыццаць, іх цяжка арганізаваць, супакоіць, прымусіць сябе слухаць. Але ж называць вучняў і вучаніц пятага класа на другую літару алфавіта настаўніку таксама ніхто не дазваляў. Школа, прабачце, — не бардэль.

Але калегі выкладчыка фізкультуры падрабязнасцяў не ведаюць. Таму абараняюць. На сходзе адзін з бацькоў кажа:

— Справа не ў тым, каму яны напісалі. Завучу школы ці ў адміністрацыю прэзідэнта. Справа ў тым, чаму спатрэбілася пісаць.

Яшчэ некалькі карцінак з жыцця школы.

Вучань прынёс з дому магнітафон і на перапынку ўключыў яго на калідоры, як кажуць, на ўсю катушку. Музыка грыміць. Падыходзіць настаўніца.

— Выключы! Ты ўсіх аглушыш!

— А што я, паслухаць не магу?!

— Выключы!

— Не выключу!

— Тады пойдзем да сацыяльнага псіхолага, там пагаварым.

— А за што? Што я такое зрабіў?

Выкладчыца матэматыкі захварэла. Яе замяняе іншая. Заканчваецца ўрок. Настаўніца дыктуе хатняе заданне. Яно не маленькае. Увесь клас запісвае. Раптам голас з месца. Вучань (напэўна, абураны, што заданне немаленькае):

— Ты что, оборзела?

Што адказваць настаўніцы?

Ці прыслухоўваліся вы да той лексікі, якая гучыць з вуснаў дзяцей і падлеткаў — у школе, дома, на перапынку? Якія словы ўжываюцца часцей за ўсё ў размове? Паспрабую пералічыць: "заглохни", "слиняй!", "закачали", "оборзели", "заткнись", "задрали", "урою", "больной", "шизик", "полечись!", "козел", "козлиха", "охренел" і г. д. Я свядома пакідаю словы па-руску, бо, па-першае, беларускіх аналагаў, прабачце, не чула, а па-другое, па-беларуску ніхто не лаецца. На беларускай мове адна інтэлігенцыя размаўляе. Ды і тое не ўся.

У школу пранікае паступова і нахабна не толькі мат, але і камерцыйныя адносіны. "Тавар — грошы — тавар".

Здараецца, што яшчэ даюць спісваць проста так. Без грошай. А здараецца, што і за грошы. Не скажу, што ўсюды. Усюды — не праверыш. На ўсё ёсць "такса", "прэйскурант". У адных класах большая, у другіх — меншая. Спісаць хатняе заданне — плаці адну суму. Праверыць зробленае — іншая сума. Так сказаць, "платныя паслугі".

Размаўляю з адным знаёмым "юным бізнесменам".

— А што? — глядзіць на мяне чыстымі вачыма. Відаць, што нават не сумняваецца ва ўласнай праваце. — Калі ён не ведае, а я ведаю і ягоную работу правяраю, дык няхай плаціць! У яго ж ацэнка лепшая будзе! Я з яго яшчэ мала ўзяў. Бяруць больш... І ён задаволены, і я. Што яму семдзесят пяць ці сто рублёў? Ён жа багаты! За 75 рублёў і кекс не купіш. А я сабе на булачку зарабіў...

І што ты таму хлопчыку скажаш? Нібыта ўсё і правільна. Бацькі дома дзень і ноч пра грошы гавораць. Пра тое, дзе знайсці дадатковы заробак. Усім цяжка. Нібыта ўсё і правільна. І млосна адначасова.

Яшчэ пра "багатых" і "бедных".

У класе вучыцца дзяўчынка. Відавочна, не бедная. У таты ёсць "Мерседэс", на якім ён дачку прывозіць на ўрокі. Хоць дом недалёка ад школы.

Перапынак. Дзяўчынка трымае ў руках грашовую купюру немалой вартасці і аб'яўляе:

— Хто зловіць, таму і будзе!

І што вы думаеце? Штурхаліся, піхаліся — лавілі!

Цікаўлюся ў сына, які расказвае мне гэту гісторыю:

— І ты лавіў?

— Не, я ўбаку стаяў, назіраў... А сябрук мой (называе імя) якраз і злавіў.

Чаму дзяўчынцы прыйшла ў галаву такая думка — пакпіць з аднакласнікаў, праверыць, хто пабяжыць, а хто не? Можа, тата дома купюры падкідае? Цікава, беларускія ці "зялёныя"? Чым не карцінка з твораў Дастаеўскага? Успомніце раман "Ідыёт". Ганя і Рагожын. Сцэна, калі Рагожын кідае пачак грошай у камін. І кажа: маўляў, хто выцягне з агню, таму той пачак і будзе...

Прайшоў год ці два. Пяты клас. Урок геаграфіі. Тая ж дзяўчынка. Настаўніца задае пытанне:

— Назаві сталіцу Украіны.

Маўчыць. Бо не ведае.

З размовы, якая адбылася напярэдадні Новага года.

— Вы ведаеце, якую зарплату маюць шахцёры ў Салігорску?

— Не.

— 500 мільёнаў.

— Але ж у іх вельмі цяжкая прафесія. Гэта рызыка. Ты спусціўся ў шахту, а назад можаш і не падняцца.

— Згодна. Але павары, якія кормяць шахцёраў, нічым не рызыкуюць. Павары атрымліваюць па 200 мільёнаў. А настаўніца ў школе бярэ паўтары стаўкі, каб атрымаць 25.

Што тут сказаць? Напэўна, нідзе ў свеце няма такой непавагі з боку дзяржавы да тых, хто не звязаны з вытворчасцю матэрыяльных каштоўнасцей. Да тых, хто вучыць, выхоўвае, лечыць. Да настаўнікаў, дактароў, артыстаў, бібліятэкараў. Жабрак не можа быць уладаром дум. Прэстыж у яго не той. І выгляд — таксама.

Пакуль дзеці малыя, медыцыну, як кажуць, — не абыдзеш, не аб'едзеш. Сын захварэў. Трэба браць бальнічны ліст. Медсястра лора (доктара "вуха, горла, нос") запаўняе лісток і пытаецца ў мяне:

— Где работаете?

— Часопіс "Мастацтва".

— Не поняла. Как?

Называю па складах. Але, відаць, збег зычных непераадольны. Пасля трэцяй няўдалай спробы кажу:

— По-русски это называется — "Искусство".

Медсястра незадаволена:

— Вот так бы сразу и сказали.

І яшчэ пра мову. Пра нібыта мірнае, "бяскроўнае" суіснаванне рускай і беларускай. Настаўніца школы расказвае мне пра аднаго свайго вучня. Ён з беларускамоўнай сям'і, і там па-беларуску размаўляюць штодня. Прычым, усе — бабуля, дзядуля, тата, мама.

Хлопчык прыйшоў у першы клас. Беларускамоўны. Дзе падручнікі — адпаведныя. І выкладанне — на мове. Але на перапынку дзеці размаўляюць так, як яны размаўляюць дома і на вуліцы — па-руску. І той хлопчык маўчаў. Пагуляць, маўляў, — не хочуць. Маўчаў — і ўсё. Мо не разумеў. А мо не хацеў. Але хіба для дзіцяці сямі гадоў такая сітуацыя і гэтае маўчанне, з дня ў дзень — не стрэс? Не пакута? Бо калі ты маўчыш, ты "выключаны" з усіх кантактаў, гульняў, размоў. Ты — адрынуты. Што павінен быў адчуваць і што думаць той хлопчык? Разважаць, хто памыляецца — аднакласнікі ці мама з татам? І як іх прымірыць? Хіба гэта — не драма, не трагедыя? Няхай і на ўзроўні аднаго маленькага чалавека...

Музыкант — таленавіты, вядомы. Нядаўна вярнуўся з замежнай гастрольнай вандроўкі. Расказвае пра свае ўражанні. А потым дадае:

— Разумееце, Еўропа пачынаецца на захад ад Брэста. Або ад Гродна. Я задыхаюся тут... Мне паветра не хапае. Усё, што мог, я тут зрабіў. Мае дзеці — жабракі. І я — жабрак. Дык я яшчэ крыху лепш за іншых жыву. Я працую. А калі не змагу? Што тады? Калі я выйду на пенсію, у мяне ж на лекі грошай не хопіць.

Збіраецца з'ехаць назусім. Калі будзе такая магчымасць. Яшчэ адзін...

Мужчына разам з сям'ёй перабраўся жыць з Казахстана ў Беларусь. Там ён быў фермерам, меў вялікія ўчасткі зямлі — не адзін дзесятак гектараў. З'ехаў адтуль, бо там неспакойна і ненадзейна. А тут — цішэй.

Размова заходзіць пра сям'ю, дзяцей, іх выхаванне. Ён лічыць, што жанчына павінна сядзець дома, займацца хатнімі справамі, дзецьмі. Але калі яна хоча працаваць, дык няхай працуе. У яго, напрыклад, абедзве жонкі працуюць...

1 студзеня 2000 года. Святочны настрой. Вяртаемся з сынам ад бацькоў дадому. На плошчы Прытыцкага — як заўсёды, натоўп. Амаль усе чакаюць аўтобус N 114. Ехаць у Сухарава. Дачакаліся, залезлі нарэшце. Пасажыры стаяць шчыльна, але, дзякуй Богу, едзем. На прыпынку Адоеўскага заходзяць некалькі чалавек.

*(Працяг на стар. 14—15)*

Беларусі)" (1926), "Экономическое влияние Москвы на организацию сельского хозяйства области" (1927, у сааўтарстве), "Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы (нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі)" (1928). У апошняй вызначыў сапраўдныя этнічныя межы Беларусі і асабліва дасканала заходнюю. Манаграфія была выдадзена на беларускай мове з вялікім англійскім рэзюме і мела значны розгалас, а яе аўтара запрасілі для чытання лекцыі ў Кембрыдж. Дарэчы, гэта кніга фігуравала ў нарадзе Сталіна пры вырашэнні заходняй мяжы Беларусі пасля Айчыннай вайны.

Гаўрыла Іванавіч правёў даследаванне па стану гаспадарчага развіцця Гомельшчыны (яна тады яшчэ не ўваходзіла ў склад БССР) у параўнанні з суседнімі рэгіёнамі, а таксама высветліў нацыянальны склад насельніцтва Гомельскай губерні (1926). У гэтых працах ён даказаў блізасць гаспадарак Гомельшчыны і заходнепалескага тыпу пануючай Беларусі (а не Расіі і Украіны) і вызначыў сапраўдны працэнт беларусаў сярод усяго насельніцтва. Дзяржплан БССР выкарыстаў звесткі Г. Гарэцкага пры распрацоўцы дакладной запіскі, у якой абгрунтоўвалася мэтазгоднасць уключэння Гомельшчыны ў склад БССР. У рабоце "Даследчая справа па сельскай і лясной гаспадарцы БССР" (1929) ён прыйшоў да высновы, што "...нізкая рыначнасць нашай гаспадаркі — прычына нізкай ураджайнасці". У артыкуле "Нацыянальныя асаблівасці насельніцтва БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г." на фактычным матэрыяле паказаў, што "...беларусы пераважываюць працэс асіміляцыі выключнай моцы".

Дзейнасць Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі (1927—1930) мела для развіцця навукі і народнай гаспадаркі Беларусі вялікае значэнне не толькі ў час яго існавання, але і пазней, бо на базе аддзелаў інстытута ў далейшым былі створаны многія самастойныя навукова-даследчыя і вытворчыя ўстановы, якія працуюць і цяпер: Беларускі навукова-даследчы інстытут земляробства, БелНДІ меліярацыі і воднай гаспадаркі, БелНДІ лясной гаспадаркі (сучасны Інстытут лесу НАН Беларусі), Гідраметэаралагічная служба і інш.

У 1930 г. Г. Гарэцкі за высокія дасягненні ў навуцы адзначаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР, але ўзнагарода да адрасата не дайшла ("ордэны змянілі на ордэры"), бо ў канцы ліпеня ён разам з вялікай колькасцю вядомых прадстаўнікоў інтэлігенцыі Беларусі быў арыштаваны, праходзіў па так званай справе "Працоўнай сялянскай партыі" і амаль праз год быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання, якую замянілі на 10 гадоў канцлагера. На гэтым закончыўся першы этап яго жыцця.

Г. Гарэцкі трапіў на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Тут з часам яму пашчасціла атрымаць працу ў Геалбазе Ленінградскага геолагаразведачнага трэста (пас. Мядзведжая Гара, Карэлія). Гаўрыла Іванавіч цалкам аддаўся новай цікавай прафесіі геолага і ў хуткім часе ўжо працаваў інжынерам-геолагам па геалагічных вышуканнях пад Беламорска-Балтыйскі і Кольскі каналы, Ніжне-Туломскую і Верхне-Туломскую гідраэлектрастанцыі. Пасля вызвалення ў 1934 г., яму яшчэ два разы прыйшлося адведаць прэс рэпрэсіўнай машыны таталітарызму: ён быў арыштаваны ў канцы 1937 г., затым выпушчаны і зноў адседзеў у сталінскіх казематах крыху больш года, да ўсяго зноў першапачатковы прысуд-расстрэл.

У час вайны Г. Гарэцкі ўдзельнічаў у будаўніцтве абаронных збудаванняў у Калінінскай, Ленінградскай, Валагодскай абласцях, пад Масквой, а затым у якасці кіраўніка геалагічнай службы ў сістэме Гідрапраекту праводзіў інжынерна-геалагічныя даследаванні пад буйнейшыя гідратэхнічныя збудаванні розных раёнаў. У 1945 г. у Інстытуце геалагічных навук АН СССР (Масква) абараніў кандыдацкую дысертацыю (вучоны савет прапанаваў яе і ў якасці доктарскай, але ВАК з-за адсутнасці трэцяга апанента зацвердзіў толькі першую). Тады на наступны год Гаўрыла Іванавіч на тым жа вучоным савеце абараніў доктарскую дысертацыю на іншую тэму.

Праца па інжынерна-геалагічных даследаваннях пад будаўніцтва шматлікіх гідратэхнічных збудаванняў выклікала бясконцыя вандроўкі і частую змену жыхарства і толькі 1956 г. Гаўрыла Іванавіч пераехаў у Дзедаўск у Падмаскоўі, дзе пражыў больш 10 гадоў. Тут ён працаваў у Гідрапраекце намеснікам начальніка аддзела геалагічных вышуканняў, галоўным геолагам паўднёвых аб'ектаў, галоўным спецыялістам. Гэта быў перыяд значных навуковых і практычных вынікаў, збору вялізнага фактычнага геалагічнага матэрыялу, які пазней дазволіў Г. Гарэцкаму стаць заснавальнікам новага вучэння пра рэкі геалагічнага мінулага — палеапатамалогіі. Ён засеў за складанне манаграфій — і ўжо ў 1964 г. выйшла з друку першая кніга "Аллювий великих антропогеновых прарек Русской равнины. Прареки Камского бассейна", а праз два гады — другая — "Формирование долины р. Волги в раннем и среднем антропогене. Аллювий Пра-Волги".

Увесь час амаль 40-гадовага выгнання з Бацькаўшчыны быў для Г. Гарэцкага несціхальнай тугой па Беларусі, да якой ён імкнуўся ўсім сэрцам і душою і якой марыў прысвяціць усе свае веды, сілы, апошнія гады жыцця... Смерць галоўнага дыктатара краіны, а пасля і поўная рэабілітацыя ў 1958 годзе дазволілі яшчэ больш спадзявацца на магчымасць вяртання на Радзіму. Але дазвол быў атрыманы толькі праз 10 гадоў. У 1965 г. Г. Гарэцкі быў аднаўлены ў складзе правадзейнага членаў АН БССР, але па спецыяльнасці "геалогія", а ў 1968 г. вярнуўся ў Мінск, дзе ўзначаліў створаны ім аддзел геалогіі і палеапатамалогіі антрапагена ў Інстытуце геахіміі і геафізікі АН БССР.



*Гаўрыла ГАРЭЦКІ з сынамі Радзімам і Усяславам, 1977 г.*

На Бацькаўшчыне апошнія 20 год жыцця для Г. Гарэцкага былі сапраўдным падарункам лёсу, яго самым шчаслівым часам, калі яго мары здзейсніліся. Нягледзячы на досыць сталы ўзрост, ён працаваў так заўзята, так апантана, што нават маладыя супрацоўнікі ў палявых геалагічных экспедыцыях не паспявалі за ім. У яго сапраўды з'явілася "другое дыханне", ён памаладзеў і не адчуваў стомы. Яго цікавілі не толькі геалагічныя навукі і вытворчасць, але і ўсё, што датычыла Беларусі і што рабілася ў краіне: развіццё навукі і вучоныя, энцыклапедыі і тэрміналогія, мова і літаратура, фальклор і этнаграфія, гісторыя і археалогія, тэатр і філармонія, выступленні пісьменнікаў і музеі, беларускамоўныя часопісы і газеты (якія амаль усе выпісваў), эканоміка і наогул народная гаспадарка, жыццё вёскі і горада, народанаселенне і асобныя дзеячы, прырода і асабліва любіў пошукі грыбоў...

Яшчэ ў 1967 г. Гаўрылу Іванавіча прызначылі старшынёй Камісіі па вывучэнні чацвярцёвага перыяду пры секцыі навук аб Зямлі АН СССР і старшынёй секцыі Міжнароднай асацыяцыі па вывучэнні чацвярцёвага перыяду, доўгі час ён на грамадскіх пачатках заставаўся галоўным кансультантам Гідрапраекта. У Мінску ён быў намеснікам акадэміка-сакратара Аддзялення хімічных і геалагічных навук АН БССР, членам тэрмінальгічнай камісіі і рэдкалегіі Беларускай энцыклапедыі, старшынёй створанай ім Беларускай антрапагенавай камісіі і інш.

У 1970 г. была надрукавана трэцяя манаграфія "Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра". На наступны год за ўсе тры кнігі Гаўрыла Іванавіч атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР.

З часам пабачылі свет яшчэ дзве манаграфіі, шэраг артыкулаў, тэзісаў дакладаў на розных (у тым ліку і міжнародных) канферэнцыях і кангрэсах, была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР, прысвоена званне заслужанага дзеяча навукі БССР. У гонар Г. Гарэцкага палеантолагі назвалі 12 новых відаў выкапнёвых раслін і жывёл. Створаная Гаўрылам Іванавічам буйная беларуская школа геолагаў-чацвярцічнікаў атрымала шырокую вядомасць не толькі ў БССР, але і ў СССР і замежжы.

Памёр Гаўрыла Іванавіч 20 лістапада 1988 г. Ён пакінуў вялікую спадчыну, яго след прыкметны ў многіх галінах навукі, у грамадскім жыцці і справе нацыянальнага адраджэння. Найбольш значны — гэта чацвярцёвая геалогія і палеапатамалогія. Важкі ўклад Г. Гарэцкі зрабіў у эканамічную геаграфію, дэмаграфію, беларусазнаўства, арганізацыю многіх устаноў народнай гаспадаркі — сельскай, лясной, гідраметэаралагічнай ды інш. Ён пакінуў цікавыя працы па археалогіі, этнаграфіі, мовазнаўстве, літаратуразнаўстве. Яго спадчына патрабуе новых даследчыкаў.

**Радзім ГАРЭЦКІ**

сынам Радзімам, цяперашнім славутым вучоным і гарачым змагаром за беларускае адраджэнне.

Даклад акадэміку прыйшоўся даспадобы. Ён гаварыў пра гэта і мне, і Уладзіміру Дубоўку, з якім даўно сябраваў. Так, у лісце да У. Дубоўкі (цяпер захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН РБ, ф. 14) Гаўрыла Іванавіч паведамляў, што на вечар з нагоды 75-годдзя Максіма Гарэцкага было разаслана 600 запрашальных білетаў. Але людзей прыйшло малавата — 60—70 чалавек.

На самай справе па нашых мерках гэта была даволі салідная аўдыторыя, калі мець на ўвазе, што вечар наладжваўся ў гонар пісьменніка, творчасць і само імя якога выкрэсліваліся з людской памяці шмат гадоў.

Далей ідзе больш усцешлівае прызнанне: "Але вельмі, вельмі нам спадабаліся прамовы Янкі Брыля, Язэпа Семяжона, Ю. Гаўрука і асабліва даклад Д. Я. Бугаёва".

Калі ўжо закрануўся матыў сяброўства Г. Гарэцкага з У. Дубоўкам, дык, мабыць, нялішнім будзе сказаць, што Гаўрыла Іванавіч, як паказваюць матэрыялы з таго ж аддзела рукапісаў ЦНБ НАН РБ, вельмі ўважліва чытаў творы свайго сябра і дзяліўся з ім уражаннямі, часам выказваў і заўвагі, як правіла, зусім слушныя.

Пра Дубоўкаву аповесць "Жоўтая акацыя" ён напісаў яе аўтару: "Цікавая, арыгінальная кніга, у якой няма падабенства ні з якой папярэдняй.

Кнігу Тваю з удзячнасцю будуць чытаць не толькі юнакі і юначкі, але і дарослыя, асабліва настаўнікі, для якіх кніга Твая будзе настольнай.

Выхаваўчае значэнне Тваёй кнігі бязмежнае — яна прышчэпіць моладзі палкае замілаванне да Радзімы, да прыроды і яе людзей, да жыцця, да раслін, узгадуе тысячы прыродалюбаў і прыродазнаўцаў, будучых батанікаў і аграномаў, лесаводаў і садаводаў.

Ты праклаў векавы мост да людскіх сэрцаў і розуму. Хвала Табе, браце!"

Гэта пісалася ў лісце ад 18 жніўня 1967 года, пісалася патрыётам, які сам бязмежна любіў родную Беларусь, яе людзей і прыроду, якую ён глыбока вывучаў з маладых гадоў, ведаў яе незаменную каштоўнасць для чалавека і хацеў, каб той не губіў сваім варварствам, а наадварот, павялічваў красу Бацькаўшчыны.



*Гаўрыла ГАРЭЦКІ з Янкам БРЫЛЁМ, 1976 г.*

Прачытаўшы аповесць У. Дубоўкі "Ганна Алелька", Гаўрыла Іванавіч паведаміў: "Ганна Алелька" мне спадабалася. Чаруе хараство мовы, дынамічнасць, яснасць, прастата апавядання. Здаецца часам, нібы чуеш апавяданні Пушкіна, Бакачыо.

Вершаваныя ўстаўкі кранаюць сэрца, выгукаюць слёзы, надаюць апавяданню сапраўдную паэтычнасць.

Аповесць чытаецца з цікавасцю... Веды аўтара бязмежныя, культура — найтанчэйшая, веданне жыцця, асабліва настаўніцкага, глыбокае... Толькі ці занадта станоўчая яна [Ганна] гераіня? Ці не надта лёгка перадольвае яна жыццёвыя перашкоды?"

Учэпістае вока вучонага заўважыла карэнны недахоп Дубоўкавай гераіні, персанажа загалоўнага, цэнтральнага ў творы, аднак даволі ўмоўнага. Але зноў з якою далікатнасцю выказаны папрок!

Набытая ў шматгадовай навуковай працы прафесійная звычка гаварыць пра ўсё вельмі дакладна і ўзважана адчуваецца і ва ўсіх змястоўных, багатых на фактычныя звесткі і глыбокія высновы публікацыях Г. Гарэцкага, прысвечаных брату-пісьменніку ("Успаміны пра брата", "Некалькі малюнкаў з дзіцячага і юнацкага жыцця Максіма Гарэцкага", "Сацыяльны аптымізм Максіма Гарэцкага"), і ў яго ных успамінах пра Купалу ("Вобраз Янкі Купалы ў маім успрыманні"), Коласа ("Такім яго помню"), Дубоўку ("Некалькі сустрэч з Уладзімірам Дубоўкам"), і ў такіх даследчых артыкулах, як "Горкі і беларускі фальклор" ды іншых.

І толькі ў пахвале тым, хто сказаў хоць і не вельмі важкае, але прыязнае слова пра М. Гарэцкага, Гаўрыла Іванавіч асабліва не клапаціўся пра дакладнасць меры. Тут ён часта бываў залішне шчодрым, дапускаў яўныя, вядома, знарочыстыя перабольшанні. Я, напрыклад, быў нямала здзіўлены, атрымаўшы ад яго ліст, другі па ліку (а ўсяго іх у мяне набярэцца цэлы дзесятак плюс адна віншавальная тэлеграма), у якім выказвалася падзяка за прадмову да палымянскай публікацыі твораў М. Гарэцкага, зробленай у 1968 годзе (N 8).

Рыхтавалі тую публікацыю мы разам з Барысам Сачанкам. Прадмова ж была невялікая, называлася яна сціпла ("Некалькі слоў пра малавядомыя творы Максіма Гарэцкага") і на многае не прэтэндавала. Але Гаўрыла Іванавіч дзякаваў і за яе. Вось што ён напісаў у тым лісце, зноў жа з Дзедаўска, датаваным 18.VIII.68.: "Дарагі Дзмітрый Якаўлевіч!

Сёння прыйшоў да нас N 8 "Полымя". Адразу ж прачытаў Вашу прадмову і ўсё Максімава. Вашу прадмову прачытаў галасна сын Усяслаў у часе абеду ўсёй сям'і.

Усе родныя Максіма бязмежна рады і ўдзячны Вам. Мне здаецца, што я толькі што пагаманіў з Максімам — так усё блізка, знаёма да дэталяў у "Меланхоліі".

А цяжка хворай Леаніле Усцінаўне [жонка пісьменніка, тады, зразумела, ужо даўно ўдава] Ваша прадмова і надрукаванае Максімава будзе сапраўдным бальзамам, як і для Галіны Максімаўны".

У тым жа 1968 годзе Гаўрыла Іванавіч пераехаў у Мінск, дзе прайшлі яго апошнія дваццаць гадоў, якія Радзім Гарэцкі характарызуе як "самыя светлыя, спакойныя і плённыя" ў багатым на крутыя павароты бацькавым жыцці.

Працаваў ён цяпер у АН БССР, у Інстытуце геахіміі і геафізікі, да якога я не меў ніякага дачынення. Сустракацца ж з Гаўрылам Іванавічам даводзілася нярэдка, бо ён часта прыходзіў у Саюз пісьменнікаў на літаратурныя вечары, наведваў калі не ўсе, дык многія тагачасныя тэатральныя прэм'еры і некаторыя радавыя спектаклі, увогуле цікавіўся ўсім, што адбывалася ў культуры. Я ў тыя гады таксама бегаў на розныя мерапрыемствы і, калі бачыў Гаўрылу Іванавіча, дык заўсёды падыходзіў да яго выказаць сваю пашану. Размова звычайна адбывалася на хаду, але была шчырай і прыязнай. Абменьваліся думкамі, уражаннямі. Сяброўствам у дакладным сэнсе слова такія адносіны назваць нельга. Але прыхільнасць і непаказная ўвага з боку Гаўрылы Іванавіча адчуваліся нязменна.

Пільнай патрэбы ў перапісцы цяпер не было. Але часам прыходзілі ад яго і лісты, зноў жа з падзякай. Так, ужо ў 1973 годзе ён 4 красавіка напісаў: "Шчыра дзякую Вам за Вашу добразычлівую, змястоўную прамову пра Максіма на вечары ў клубе СП БССР.

Наш Кірылка [унук Гаўрылы Іванавіча] запісаў Вашу прамову на магнітафонную стужку, якую мы пераслалі нашым родным у Ленінград. Леаніла Усцінаўна і Галіна Максімаўна праслухалі па запісу Вашу прамову — ім спадабалася, яны шлюць Вам сваю сардэчную падзяку".

*(Працяг на стар. 14—15)*

**ЛіМ ЧАСАПІС**

# "Золотая паутина"

**Андрэй Скарынкін — паэт вядомы. Праўда, у большай ступені за межамі Беларусі і ў першую чаргу ў Расіі, дзе высокую ацэнку яго творчасці далі многія майстры прыгожага пісьменства. У прыватнасці, выдатны лірык Уладзімір Сокалаў засведчыў, што А. Скарынкін "своеасабливы і моцны талент новага часу". У гэтым, дарэчы, маглі пераканацца і тыя, хто пазнаёміўся з кнігамі А. Скарынкіна, што выходзілі ў той жа Маскве. Цяпер жа пабачыла свет і першая на радзіме: "Беларускі кнігазбор" даў жыццё зборніку А. Скарынкіна "Золотая паутина". Гэтая назва для паэта мае глыбокі сэнс. Як сведчыць выдавецкая анатацыя, А. Скарынкін "імкнецца схавацца ад суровай рэчаіснасці і ўсяго таго, што адбываецца, за залатой павуцінай вечных каштоўнасцяў". Душа лірычнага героя А. Скарынкіна прагне таго пастаянства, якое надыходзіць толькі тады, калі чалавек адчувае гармонію са светам, а ў ім уяўляе сябе патрэбнай часцінкай, пазбаўленай усяго другаснага, наноснага, выпадковага. Але ў сапраўднасці атрымліваецца, што дасягнуць гармоніі цяжка, бо нават тое,**




**што, здавалася б, сведчыць аб абуджэнні людской душы, яе прагавітым жаданні далучыцца да вечнага, не заўсёды мацуецца на належнай аснове:**

*Мне жутко, родимые, жутко*
*Пред тем, что нас ждет впереди.*
*Страшат не пустоты желудка —*
*Пугает безверье в груди.*

*Нет в церкви для Господа места,*
*Хотя говорим о Христе...*
*Так прячет пороки невеста*
*В своей белоснежной фате...*

**І як бы працяг гэтай тэмы ў паэтычным дыялогу "Встреча школьных друзей". Калі спатканіся колішнія сябры, высветлілася, што адзін з іх стаў святаром. Гэта тым больш дзіўна, што ён "ходил в пороках постоянно". Аднак не прага маральнага і духоўнага ачышчэння, вера прывялі яго да храма, а жаданне знайсці цёплае месца. І рэзонна ў сувязі з гэтым гучыць голас аўтара: "Ну, что ж, друзья, мне нечего добавить...".**

**Андрэй Скарынкін, аднак, хоць і хоча схавацца за залатой павуцінай, каб на нейкае імгненне адысці ад таго, што выклікае боль у душы, не можа не пісаць пра тое, што разбурае чалавека ў чалавеку, знішчае яго сутнасць, якая вядзе да лжывых ідэалаў. І невыпадкова напісаўся верш "Потерянный рай", якім і адкрываецца кніга:**

*Тот дивный скит,*
*в котором много лет*
*Скрывался я от гибельных сует,*
*Где серебрился голос мой криничный,*
*Сегодня превратился в дом публичный...*
*Единственное место на Земле,*
*Где я творил с улыбкой на челе,*
*Вкушая дар Божественной свободы,*
*Не замечая, как проходят годы!*
*Но вот опять бездомным стал пиит...*
*Найдется ли другой достойный скит,*
*Куда бы я в минуты потрясений*
*Мог убежать, минуя царство теней?!*

**Гэта таксама пошукі. І таго прыстанішча, дзе душа лірычнага героя можа адпачыць, супакоіцца. Але гэта і пошукі самога ў сабе, таксама вельмі патрэбныя сёння. А дарога да вечных каштоўнасцяў для А. Скарынкіна гэта і дарога туды, дзе самыя светлыя ідэалы некалі былі нормай. Як і высокая маральнасць, духоўнасць. А таму ў яго творах інтанацыйна ажывае даўняя эпоха, што адчуваецца і па тым, наколькі радок нярэдка набліжаецца да напісанага некалі вядомымі майстрамі, але, як слушна сказана ў анатацыі, "гэта не з'яўлеецца эпігонствам, гаворка хутчэй ідзе аб унутраным сваяцтве, аб духоўнай агульнасці, аб адзінстве ў разуменні света прыгожага".**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

---

**ПАЭЗІЯ**

Мікола
АРОЧКА



# Каб людзям даць цяпло...

## *Санет*

*Нас цешыць сімволіка дрэва,*
*Што вырасла з пня-кругаля.*
*Ды ў лесе шукаў я дарэмна*
*Адродзін такога камля.*

*На зрэз мурашы па сугрэве*
*Шнурочкам паўзуць спакваля.*
*Адсюль да кашлатага спеву*
*Табе — як далёка, зямля!*

*Два вечных пачаткі: краса*
*У бітве з дзікунствам ляза*
*А ўсё ж тут Адродзіны здзейсняцца!*

*На шчасце, прадбачлівы Час*
*На высечках кожнага з нас*
*Пакінуў — як старку-насенніцу!*

## *Наказ печніка*

Крэўніку ІВАНКУ

*Пячнік, мой родзіч, цудадзеяч гліны,*
*Тварэц пахуча-звабнага цяпла,*
*Я помню: твой наказ мне здаўся дзіўным,*
*Не пасаваў да нашага жытла.*

*"Будзь майстрам-печніком,*
*не камінарам,*
*Не трубачыстам, а будаўніком,*
*Ты глінай дыхай, жарам, а не гарам,*
*Ладкуй цагліны, кахліны радком!*

*Выкладвай пільна люхты цеплавыя*
*І кладку вывярай на постук, гук,*
*І пелюсці, і ходы дымавыя,*
*Але нідзе не пэцкай сажай рук!.."*

*Калісьці і Табе настаўнік-майстра*
*Такі ж даваў жыццёвы запавет,*
*Ды парушыць прыходзілася часта*
*Той запавет пад навалаччу бед.*

*І чысціць, і скрабці, марацца ў сажу,*
*Каб людзям даць прадушыну цяпла...*
*Як сёння шмат у роздуме мне кажа*
*І твой наказ, і дол паўскрай сяла.*

## *Заўзятар*

*Меў заўзятар перонны разлік:*
*Сесці ў рэйсава-дальні цягнік.*
*Каб не бегчы за ім наўздагон, —*
*Хоць убіцца ў апошні вагон!*
*На апошнім падножку вісець,*
*Хоць на буфер — абы паспець!*
*Колы зменяць кірунак-разгон:*
*Стане першым апошні вагон!..*
*Ды наспеў адваротны адлік:*
*Сеў заўзятар не ў свой цягнік.*

## *Падсочка*

*Дажывае гонкасць бору,*
*Бор той не стары.*
*Галаву задзёршы ўгору,*
*Ходзяць тут майстры.*

*І разцом шаргочуць моўчкі —*
*Кветкі з-пад ляза.*
*Не жывіца ад падсочкі,*
*А бурштын-сляза.*

*Льецца ў посуд, нібы ў лейку,*
*Праз канаўку-роў.*
*Меднаствольцам паўвеку,*
*Маладая кроў...*

*Ды заступніцкае моцы*
*Я не маю тут.*
*Сам я чуюся ў падсочцы,*
*Як і ўвесь мой люд.*

## *Трыножнік Алены Чароўнай*

*Трыножнік, з чырвонага золата куты,*
*У хвалях зазззяў, нібы рыба луской.*
*У сетку рыбацкую трапіў —*
*адкуль ты*
*З такою аздобаю, тонкай разьбою?*

*Загадку задаў рыбакам сваім косскім*
*Стары Пасейдон, паспрыяўшы з уловам.*
*Рашылі паднесці дарунак боскі*
*Найслыннаму ў ведах і ў мудрасці слова.*

*Дзівіўся дарунку найслыннейшы Фалес:*
*То ж гэта трыножнік Алены Чароўнай!*
*Шпурнула яна яго ў бурныя хвалі,*
*Калі са слязамі плыла з Іліёна.*

*Вяшчунны трыножнік не даў ёй збавення,*
*Ратунку ля сценаў траянскіх — Парысу.*
*З легенды знячэўку, як цудатварэнне,*
*Усплыў ён, зіхотны, у пене, у пырсках.*

*Каму ж гэты дар —*
*мудрэйшаму з мудрых?*
*Ды Фалесу гэтак падумаць грэшна!*
*Ён быў чалавекам элінскай культуры,*
*Трыножнік Біянту паслаў: ён мудрэйшы!*

*Біянт, найвучонейшы муж цнатлівы,*
*Паслаў да Хілона той дар нябесны...*
*Сямёх мудрацоў абышоўшы, у Фівы*
*Вярнуўся трыножнік назад —*
*да Фалеса...*

*Вяшчунны трыножнік, суціш нашы звады.*
*Як добра, што ўсплыў*
*ты з прадонністай нетры!*
*Шматзначную прытчу сівое Элады*
*Я вам пасылаю з трыножнікам, мэтры!*

## *Праскрыпцыі або Смерць Цыцэрона*

*Няма большага драпежніка, чым чалавек, у якім дурныя страсці лучацца з уладай.*

**ПЛУТАРХ**

*Славуты, цудамоўны Цыцэрон*
*Не мог мячу дыктатара скарыцца.*
*І помслівай пачварай наўздагон*
*За ім пусцілася праскрыпцыя.*

*Выслухвала ўзбярэжны плюхат хваль,*
*Сцяжыны і праходы аблажыла.*
*О, лецішча, у кушчах прыхавай,*
*Прымі яго, знямоглага, з насілак.*

*Спаві ў лістоту, ў цытрусавы сад*
*Таго, хто ўладным дарам красамоўцы*
*Высока ўзнёс на консульскі пасад*
*Драпежнасць лютую сваіх забойцаў.*

*У іх ён заслужыў сваім даверам*
*У спісах смерці самым першым стаць.*
*Як страшна ўсё ж за чалавека-звера,*
*Які ў сабе сваю дурную страсць*

*З уладай дзікай абвянчаў — тады*
*Над морам нават хорам Апалона*
*Не перапыніць чорнае бяды,*
*Не данясе прадвесця грай варонаў...*

*Радок праскрыпцыі, як дзіда ўслед,*
*Прайдзе праз засень лаўраў, кіпарысаў,*
*Праніжа ўсё, што дорыць свету цвет,*
*Каб валадарыў пострах чорных спісаў...*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Але прыўстаў дух мужнасці з насілак*
*І шыю агаліў — на ўзмах ляза...*
*А над чалом — над жахам і насіллем —*
*Вілася вінаградная лаза.*

---

Змітрок МАРОЗАЎ



# Калінавая гронка на стале

## *Крыж*

*Самотны крыж*
*на могілках забытых*
*Не памятае, хто пад ім ляжыць...*
*Дзіця тут, можа,*
*сном анёльскім спіць?*
*А мо стары, карэннем дрэў спавіты?*

*Сцёр пазалоту надпісаў на плітах*
*Няўмольны час. Крук роспачна крычыць,*
*Нібы жадае мёртвых разбудзіць, —*
*Няма каму ў акрузе сеяць жыта.*

*Забралі жней і сейбітаў клады,*
*Без веку шмат адчэзла маладых,*
*Атручаных гарэліцаю таннай.*

*Пад скрушны крыж*
*на могілках старых*
*Кладу букет рамонкаў палявых,*
*Кладу з віной і пакаяннем.*

•

*Калі жыццё губляе сэнс,*
*Хачу тады на час забыцца,*
*Пайсці ў дрымотны,*
*цёмны лес*
*І, бы ў дзяцінстве, заблудзіцца.*

*Мо там ад дробязей зямных,*
*Ад валтузні пустой, мышынай,*
*Ад крыўдных слоў*
*і думак злых*
*Знайду жаданы адпачынак.*

*Пачую шмат паданняў там*
*Ад мудрых дрэў і траў пахучых,*
*А зло пакіну ведзьмакам —*
*Няхай адзін аднога мучаць!*

•

*Я з табой сустракаўся аднойчы:*
*Вочы ў вочы зірнулі без слоў...*
*З той пары я малюю штоночы*
*Пачуццёвай палітрай радкоў*
*Вобраз твой...*
*Сэрца верыць і хоча,*
*Каб той міг паўтарыўся ізноў.*
*Я з табой сустракаўся аднойчы:*
*Вочы ў вочы зірнулі без слоў...*

•

*Вільготны водар позніх кветак.*
*Пяшчотны дотык мілых рук...*
*Пагавары са мной пра лета*
*Пасля спатканняў і разлук.*

*Лагодай верасня сагрэты,*
*Лаўлю твой кожны ўздых і гук...*
*Вільготны водар позніх кветак.*
*Пяшчотны дотык мілых рук.*

•

*Калінавая гронка на стале —*
*Кастрычніка апошні падарунак,*
*Нібыта развітальны пацалунак,*
*Калінавая гронка на стале.*

*З табой мы развіталіся. Але*
*Ты для мяне пакінула надзею,*
*Што ў завіруху сэрца адагрэе*
*Калінавая гронка на стале.*

•

*Кожны з нас нараджаецца*
*на белы свет*
*Для незамутнёнай праўды.*
*Ды ўжо ледзь не з першых крокаў*
*свайго жыцця*
*Сутыкаецца з маной.*
*І нярэдка, сам не жадаючы гэтага,*
*Пачынаеш маніць: знаёмым,*
*сябрам, родным людзям.*
*Але горш за ўсё на свеце,*
*Калі чалавек маніць сабе самому.*
*Душа ў ім тады камянее,*
*А спустошанае цела брыдзе*
*Па выбоістай дарозе жыцця ў нікуды.*

•

*"Не замінайце жыць", —*
*Вы ціха мне сказалі,*
*Бы павуцінку-ніць*
*Між намі разарвалі.*

*Яе мы аднавіць*
*Не зможам аніколі...*
*Не замінайце жыць.*
*І дзякуй Вам за волю.*

•

*Калі мяне пужаюць пеклам,*
*Ці зычаць райскія палі,*
*Заўжды кажу з усмешкай ветлай:*
*"Рай з пеклам толькі на зямлі".*

ПРОЗА

Уладзімір МІХНО

# МЕХАНІК

АПАВЯДАННЕ—БЫЛЬ



Жыву я, можна сказаць, на хутары. Вёска выстраілася ў дзве шарэнгі і маршыруе ўдалячынь, аж за тры кіламетры, і толькі некалькі хацін дэзерціравалі са строю, падаліся бліжэй да возера. Мая хата адбеглася далей за ўсіх, схавалася ў густую лазу і толькі там, упэўніўшыся, што яе ніхто не даганяе, супакоілася, прысела. Выйдзеш зімою, марозна зорнаю ноччу — аніводнае жывое душы. Здаецца, толькі ты адзін ва ўсім свеце, самотнік і пустэльнік. Прыслухаешся — не, у хляве спрасоння балбочуць куры, па блізкай шашы гады ў рады праімчыць якая легкавушка з горада, на небе між зорак светлячком прапаўзе спадарожнік — жыве свет...

Во і ў Просіным акне, на куханьцы, бывала, усю ноч блішчыць святло. Што там яны рабілі — аднаму Богу ведаць. Можа, Механік сядзеў ды курыў, а можа, праспаўшыся, з вечара хадзіў куды красці, ды святло забываўся патушыць? Прося была маёй бліжэйшай суседкаю. Колькі сябе помню, старая жыла ўдваіх з сынам, хадзіла згарбелая, кійком перад сабою дарогу мацала, але свайго ніколі не ўпускала. Наадварот, людзі расступаліся, давалі ёй дарогу, зважалі на яе старасць, а яна як бы і не заўважала людзей: то там, то тут наробіць галасу — у краме да яе не прыткніся, да студні, што ля яе хаты, блізка не падыходзь. Не даў Бог характару — даў голас. Голас опернай спявачкі. А калісьці ж, як быў я зусім яшчэ малы, помню, суседка спявала. А ці пшанічку жне, а ці капешачку растрасае, а ці бульбачку падбірае — спявае Прося, і песня, вясёлая, раздольная, далёка ляціць па нашых Азерцах. Прося любіла і ўмела працаваць. Нават мала сказаць — любіла. Ёсць такія людзі — працаголікі, — для якіх праца становіцца не толькі жыццёвай неабходнасцю, але і адзіным паратункам. Забяры ў Просі яе кароў, свіней, забяры яе агарод, — і што? Лепей жывую кладзі тады ў труну. Без працы Прося не была б чалавекам, асобаю. Свінства яна трымала, і кароў цэлы статак бегаў у яе, а вось агарод, як па цяперашніх мерках, быў невялікі. Людзі панабіралі зямлі ў полі, душацца, давяцца. Прося да поля ўжо й не дабяжыць, каб надта і хацела, затое ля хаты, старасцю прыгнутая да зямлі, яна зямельку гэтую рукамі замшэлымі, парэпанымі ад працы перабярэ, бывала, перамацае кожную друзачку, кожную травіначку пагладзіць. Зямля на яе агародзе пульхная, як пух. Сына, бывала, падахвоціць, без каня, пад рыдлёўку, бульбачку пасадзяць, і пакуль тая бульбачка паспее, ні травіначкі на ёй, ні быліначкі пад мікраскопам не знойдзеш. Агарода на полі не брала, затое ж якую свяшчэнную вайну вяла яна з суседзямі за межы! Тут ужо яе опернага голасу станавілася мала, у ход ішло тое, што было пад рукамі: ці вілы, ці граблі, і, вядома ж, не ў апошнюю чаргу — яе доўгі кій, з якім не расставалася і на працы. Завядзецца, бывала, з другою маёю суседкаю, з Хадоскаю, аж пыл на мяжы курыць.

— Сінягрыбачка, — дражніцца Хадоска, — сінягрыбачка. Хадзі ж сюды, бліжэй хадзі. Усё ж табе зямелькі мала. Бач ты, карга старая, цэлую сотку майго агарода апрыходавала. Я ж цябе накармлю зямелькай, бадай табе дошкі сушылі.

А "сінягрыбачка" як не чуе, лупіць мяжу, барануе ручкамі дзёран лепш за культыватар, ды раптам як выпрастаецца, як схопіць свой доўгі кій і — напрэймы, бягом, кіем, як Будзённы шабляю, размахвае:

— Ах ты, курва сцёбаная, каб цябе рак паеў! Ты мною будзеш камандаваць, сука, каб тваімі дзеткамі на тым свеце камандавалі...

І пайшло — маць-перамаць. Ды якія ж выбраныя слоўцы! Далібог, я ў войску праслужыў, а такіх не ведаю. Канцэрт па заяўках.

А калі не падзялілі з Хадоскаю слівы, якія раслі на мяжы, — тут ужо ўся вёска дзіву давалася. Выходжу я аднаго разу з хаты, вачам сваім не веру: трашчыць нешта. Гляджу, аж Прося са сваім Колем учапіліся за слівіну, ды з карэннем яе цягнуць. Куды падзеўся кій, дзе сіла бралася, шалёная, злосная, нячыстая сіла! Дрэвам мо ўжо гадоў па пятнаццаць, тоўстыя, каранiстыя. І што ж вы думалі — вычубілі ўсе як ёсць, мяжу раскапалі, перабралі, зноў жа рукамі, кожны камочак. Вось гэта сялянская натура!

Коля, Просін сын, на рабоце быў таксама спрытны. Каб не гарэлачка, мо і сёння жыў бы ён за маткаю, як у Бога за пазухай. Не паспее певень саскочыць з куросадня, як Коля-Механік ужо ў сваіх кірзавых салдацкіх ботах і ў салдацкіх штанах, зашмальцаваных, прамасленых, як бы толькі што ў іх ляжаў пад машынаю, ды ў гэткім жа самым швэдары наждачкай пілуе дровы. Наждачку прымодзіць-прыладзіць — аж гарыць у руках, ніякая іншая піла і непатрэбна. Напілуе дроў і тут жа ў граду складае. А складзе ўсё роўна як пад лінеечку. Скончацца дровы — Механік сякеру за плечы і ў алешнік. Глядзіш, ужо й валачэ алешыны са дзве. А на дрывотніку ў яго ані трэсачкі, ані тырсінкі абы-дзе валяцца не будзе. У яго на дрывотніку парадак — як у дбайнай гаспадыні на куце. Таксама і да іншае работы хвацкі быў Механік: калі пожню скосіць, усёдна як карова языком зліжа, калі абчэша-абкорыць слупы агарод гарадзіць, дык тыя малойцамі па дзесяць гадоў стаяць, не гніюць, як жалезныя, калі ж паставіць плот, то роўненькі, як па струначцы. Плот, у адрозненне ад гаспадара, ніколі п'яным не валяўся.

— Так, Фёдорович, — сустрэне, бывала, мяне на вуліцы, а часцей і забяжыць у хату, — ты мне, это, пожалуйста, которое свёртывается, чтобы поджечь...

Я ўжо ведаю, хуценька нясу яму газеціну, карабок запалак, абы хутчэй з хаты выправадзіць. Колю ў хаце доўга трымаць не будзеш. Вочы ў яго так і бегаюць, так і круцяцца, каб за што зачапіцца. На хвіліначку адхінешся — і не заўважыш, як сёе-тое з хаты перакачуе ў яго шырокія кішэні ці за пазуху.

Ужо на вуліцы, прысеўшы да плота, скруціць сабе самакрутку з тытуню, якога багата расце ў іх на агародзе кожнае лета, запаліць, зацягнецца, з асалодаю прыжмурыць вочы.

— А может, Фёдорович, это, чайку немножко найдётся? А я тебе столбик принесу или метёлочку свяжу...

— Ідзі, Коля, ідзі. Няма ў мяне чаю, папілі ўвесь. Маці вунь прыбяжыць ззаду, калі будзеш той слуп несці, ды нас з табою кіем як агрэе.

— Что мать, мать ни при чём, какое ей дело?

Ага, каб Прося ды была ні пры чым! Механік ужо даўно вынес бы ўсё чыста з хаты і прадаў бы, ці за гарэлку, ці за чай. Абы старая куды адхінулася, Коля торбу за плечы і з хаты — пайшоў па вёсцы прадаваць. І купляюць людзі, ведаюць Просіну бяду, а купляюць, бо і самі даўно ўжо прадалі чорту душу. Механік, здавалася, усё ўжо сцягнуў з хаты: якое было сала, якое было збожжа, дабраўся да слоікаў ды шклянак, да талерак, бачкоў, цабэркаў. Спрабаваў быў прадаць пральную машыну, газавы балон, тэлевізар, ды Прося бегала ззаду: што адбірала галасам, а што выкупляла ў людзей. Хто ведае, мо гэта была ім Боская кара? Прося і сама па маладосці, любіла зачапіць чужое, а Коля дык і ўвогуле да сівога воласа не вылазіў з турмы. Краў ён, праўда, па дробязях. Пачалося з таго, што да суседкі Хадоскі п'яны залез у хлеў ды паскручваў галовы курам. Пасля гэтага яго ахрысцілі яшчэ й Шашком. Коля адседзеў сваё, а красці не перастаў. Ледзь толькі вып'е, так і пабег па акрузе: у каго курыцу падчэпіць, у каго якую анучу, у каго свіныя плечы з кладоўкі вынесе. Замкі ў кладоўках перапілваў ды так памайстэрску, што нават і не заўважыш. Можа, за гэта яго празвалі Механікам, не ведаю.

Другі раз сядзеў Механік у турме "за голую костачку". У кагосьці ў горадзе паўкабана прыватызаваў. Дык маці пасля хадзіла па вёсцы і кляла:

— За голую костачку сыночка пасадзілі.

Можа, і не краў бы гэтак Механік, каб Прося яго перад людзьмі не выгароджвала ды не апраўдвала. Яно зразумела, свая кашуля да цела бліжэй, але ж завошта на людзей брахаць?

Супакоўся Механік крыху толькі пад старасць, калі галава збялела, як быццам яе мукой абсыпалі, а рукі сталі калаціцца не толькі з пахмелля, а ўвесь час. Зрэшты, пахмелле ў яго было кожны дзень. Калі не было грошай на гарэлку, пасылаў матку ў краму па чай. Да чаю таксама прывык на нарах, дзе без чыфіру не ўяўлялі сабе жыцця.

А неўзабаве піць пачала і Прося... Болей не спявала Прося песні. Ці да песень тут! Мужа не дачакалася з вайны. Хата згарэла. Не жыла, гаравала ў істопцы. Новую хату сама па бярвенцу склала, агледзела як лялечку. Нічога для сябе, усё для сыночкаў. Хаця б яны пажылі па-людску. Малодшы Мішачка з гарэлкі згарэў — піў, пакуль хвароба не прычынілася. Малады памёр, недзе на свеце. Куды ні ўцякай, ад сябе не ўцячэш. Пасля Мішавай смерці Просі як рот замазалі: пацішэла, асунулася, пра песні зусім забылася. Якія тут песні, калі кожны дзень у хаце песня адна і тая ж... Думала, старэйшы, Коля, за розум возьмецца, а ў яго толькі й гаворкі — давай яму на гарэлку грошы, а то заб'е. Дык і заб'е некалі. Нядоўга... Якая яна ўжо... Старая, лядашчая, ледзь соўгаецца, а гаспадарка ўся на ёй, і хатка на яе гарбе трымаецца. Заваліцца некалі — гэты алкаголік за месяц усё ў хаце прап'е і вуглы дымам пусціць. Не заладзілася ў сына жыццё. Малады быў ажаніўся, унука Прося займела, нацешыцца не магла, думала — во пад старасць шчасце. Ды якая жонка будзе жыць з алкаголікам? От і нявестка на свеце недзе, і ўнук далёка, а яна адна са сваім горам жыць сабралася. Ды колькі таго жыцця! І Прося — запіла...

Цяпер агарод у Просі ўжо не быў такім культурным, як калісь. Праўда, яшчэ па даўняй завядзёнцы акуратна садзілі бульбу, буракі, касілі пожню, каровы ж трэба было нечым карміць. Але ўжо і бульба звялася, і агародніна не хацела расці, а часта і каровы стаялі някормленыя ў хляве. Сам гаспадар на гарэлцы не разгавеецца, а жывёлу і тым болей не накорміць.

Тым часам Прося стала радзей паяўляцца на людзях, і людзі хутка забываліся пра яе. І зусім бы забыліся, людзі зараз што ваўкі — галодныя, злыя, драпежныя, калі б зрэдчас новымі канцэртамі не нагадвалі пра сябе Прося з Колем. Я тыя канцэрты кожнага разу чуў, бо іхняя істопка стаіць наводшыбе, за маёю хатаю.

— У-убью, убью-у! — раптам прачыналася наша вуліца.

Прося вывальвалася з хаты і, дзе паўзком, дзе рачком, уцякала ў істопку.

— Смотрите, смотрите, кто пошёл! Подстилка солдатская, курва...

— Злодзей! Злодзей!

— У-убью-у!

Я слухаў і не ведаў, куды хавацца. Было шкада іх і сорамна адначас. Я разумеў, што ўжо нічым не дапаможаш ім, я толькі пытаўся ў Бога, за што ён вызначыў людзям такую кару? Але Бог маўчаў...

А памерла Прося нечакана. Ніхто і не думаў, што ўсё так хутка скончыцца. Тыдні са два яе не бачылі, казалі, хварэе. Ездзіла ў горад прадаваць малако, прастудзілася, злягла. Ці мала людзі хварэюць. Кагадзе паштарка прыносіла Просі пенсію, расказвала, што баба ўжо вунь палепшала, мусіць, бо ізноў крычала-кляла невядома каго за тое, што пенсіі ёй мала дабавілі. Пасля гэтага Механік зачасціў у магазін, браў бутэльку за бутэлькаю. Адкуль грошы ўзяліся? Зразумела, адкуль... У магазіне ж я яго і запыніў...

— Як там Прося? — пытаюся. — Кажуць, хварэе?..

— Ой, мать совсем... совсем, это, плоха, — і дзе ён навучыўся гаварыць не панаску, мабыць, таксама ў турме. — Вчера, это, скорую вызывал...

А назаўтра чую: Прося памерла. Я не паверыў. Я і не мог паверыць. Ведаеце, што гэта значыць, — пражыць трыццаць з гакам гадоў з аднымі суседзямі. Якія б ні былі гэтыя суседзі — прывыкаеш. Я думаў, што Прося з Колем — мой крыж на ўсё жыццё...

Балалайка наша на хаўтурах хвалілася:

— Слухайце, бабы, думаю, нешта не тое. Просі не відаць, а Механік увесь час з грашыма па бутэлькі бегае. Пайду-шка я пагляджу, што там такое.

— А не баялася, што Прося на вілачнік пасадзіць? — усміхаліся бабы.

Усе ведаюць: жывая Прося Балалайку і на двор не пусціла б. Гэта ж ёй Механік усё сваё дабро з хаты праз плот перакінуў. А тая за бутэльку-другую і пабрала. Якое там дабро, адны транты, ды на халяву і воцат салодкі.

— А ўжо Прося мяне на вілачніку не ўтрымае. Дык слухайце ж. Заходжу я, адчыніла дзверы, гукаю, а сама ў сенцах стаю.

— У сенцах стаіш, каб спрытней было ад Просі ўцякаць?

— Аняго, хто б ад каго ўцякаў... Гукаю — ціха, як павымiралі. Але, чую, на печы нехта шавеліцца. Я — да печы, аж там Коля, цёпленькі...

— Ты да яго адразу і палезла, — рагочуць бабы.

— Куды там лезці, цьфу на вас, абсацуйся ўвесь, прасці, Госпадзе, смярдзіць на ўсю хату. "Дзе матка?" — пытаюся. А ён нічога сказаць не можа, толькі бурчыць. Я хапіла качаргу, давай яго тузаць. Агоўтаўся нарэшце. "Дзе матка?" — "О, тётка, иди посмотри, что там с бабушкой, лежит и не разговаривает..." Я ў тую хату, аж Прося ўжо халодная. На падлозе ляжыць, пад галавою валёнак, а спадніца, прасці, Госпадзе, да пупа заголеная...

— Відаць, грошы шукаў.

— А мо і памерці дапамог, ці грэх, ці два, многа ёй, бабе старой, трэба... Прыдушыў мо падушкай ды грошы выцягнуў.

— Аднаму яму ведаць, дый Богу...

Весела на хаўтурах. А каму тут плакаць? Няма Просі — няма каму плакаць ды галасіць па сваёй няшчаснай долі... Ляжыць Прося на куце ў прыгожай блакітнай хусце з чырвонымі кветкамі, у новенькай суконцы і ў кофце. Ляжыць як маладая, таксама пасміхаецца, нібы хваліцца, што яна нарэшце вольнаю стала, што гора сваё адгаравала і пайшла дадому. А яны тут — як хочуць... Ніколі не бачыў Просю ў такім уборы. Дзякуй добрым людзям, на смерць бузельчык сабрала ды ў іх прыхавала, а то і на куце голаю ляжаць прыйшлося б. Усё людцам прадаў бы.

Механіка з печы да вечара не маглі сагнаць, каб ішоў матку хаваць. Унука таксама толькі цёмначы прычакалі. Увесь дзень ляжала Прося адна ў пустой халоднай хаце. Як яшчэ каты не аб'елі. Галодныя, няшчасныя каты гаротна сядзелі ля яе труны, неслі ганаровую варту, смуткавалі па сваёй гаспадыні, — мусіць, яны таксама адчувалі, што закончылася жыццё ў гэтай хаце...

Просю пахавалі, і хата пачала паміраць...

Справіўшы клёцкі па матцы, Механік болей ужо й не прасыхаў. З печы ён, праўда, споўз на ложак, бо на печы была такая ж халадэча, як і ва ўсёй хаце, прыкрыўся рыззём, якое яшчэ заставалася. Страшна было на яго глядзець. Здавалася, ён нікуды не выходзіў са сваёй бярлогі, а вось жа недзе ўмудрыўся змарозіць нагу, бо абутку не было чаго. Нешта ён яшчэ паспеў вынесці ды прадаць Балалайцы, пакуль матка ляжала на покуці. Зараз ужо бегаць за ім і адбіраць не было каму. Механік стаў поўным гаспадаром паўпустой, паміраючай хаты. Вольнаму — воля. Толькі ж гаспадаром пабыць яму доўга не давялося. Гніла, не загойвалася нага, і Механік злёг зусім. Мо б ён і хадзіў яшчэ, каб праспаўся ды не было чым пахмяліцца, але праспацца яму не давалі людзі.

*(Працяг на стар. 12)*



*Я. Драздовіч. Навагрудак, туш. 1930 г.*

ныя бегі". Астранамічныя веды пашыраў сярод вяскоўцаў па ўласнай методзе. З дапамогай гарбуза ды свечкі наглядна тлумачыў змену фазаў месяца. Ён стварыў сваю тэорыю паходжання планет Сонечнай сістэмы. У 1954 годзе, калі адчуў, што яго пакідаюць фізічныя сілы, адправіў у Мінск, у Акадэмію навук важкі рукапіс "Тэорыя руху ў касмалагічным значэнні". На жаль, да гэтага часу навуковая праца Драздовіча не зацікавіла беларускіх астраномаў.

Як чалавек схільны да містыкі, ён пакінуў фантастычныя дзённікавыя запісы сваіх астральных вандровак на іншыя планеты. Стварыў цэлую серыю жывапісных твораў на касмічную тэму: "Сустрэча вясны на планеце Сатурн", "Космас", "Горад Трывеж на Месяцы" і шмат іншых.

У экспазіцыі выставы, акрамя графічных і жывапісных прац, маляваных дываноў і літаратурных твораў, незвычайная інсталяцыя, у якой графічныя малюнкі мастака з жыцця на Месяцы набылі аб'ёмную форму.

Выстава "Зямля і космас Язэпа Драздовіча" будзе працаваць амаль год. Нагадаю, што сёлета старажытнае Заслаўе стане і месцам паломніцтва, бо якраз спаўняюцца 1000-ыя ўгодкі смерці князёўны Рагнеды. Прыпыніцеся на чыгуначнай станцыі "Беларусь", і вы сустрэнецеся з нашай слаўнай гісторыяй, далёкай і блізкай.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**



І гэта было нечаканасцю ў пустым памяшканні, дзе віселі творы, сабраныя з сумесных канцэптуальных праектаў В. Маркаўца і А. Разанава. "Самі гэтыя сцены прамаўляюць творамі мастацтва, якія тут нарадзіліся, — зазначыў лесь Разанаў. — Мы толькі дапамаглі ім выказацца. У мастацкага твора ёсць тры асноўныя каардынаты: хто, што і куды. І менавіта калі перакрыты шлях у "куды", то твор не адбываецца. Так і нашы работы, якія ў свой час стварылі пэўны мікракантэкст, імкнуцца вырвацца на вялікі прастор, дзе сустрэча з палітыкай адчуваецца штодзень".

Створаныя Маркаўцом і Разанавым канцэпцыі засталіся актуальнымі ў сённяшняй сітуацыі: сутнасныя адносіны рэчаў, прамоўленыя ў шасці "яйкаквадратах", разумненне жыцця па дзеянні, а не знешняй назове ("Цвікі", "Піла і сякера" з "Функцыянальных кантэкстаў"), кансістэнцыі "жаху", "смагі" з серыі "Ісваў", "гарадскі краявід", на які накладзена вайсковага колеру сетка (з серыі "Зместаформы")... Алесь Разанаў прадставіў дзве апошнія работы з серыі "яйкаквадратаў" — "Вялікае абмежаванне" грамадства і "Ланцуговую рэакцыю", дзе гэта размежаванне дамалёўвалася перад удзельнікамі акцыі агнём.

**Наталля ШАРАНГОВІЧ,**
*Фота М. ПРУПАСА.*

у мяне (лірычнае сапрана), яна ўмее расказаць, як браць высокія ноты. Дыяпазон майго голасу вельмі развіўся, і ў гэтым таксама заслуга маіх настаўнікаў. Рэпертуар мой пакуль невялікі. На оперных творах больш спасцігаеш тэхналогію, бо яны тэхнічна даволі цяжкія. А ў камерных рэалізуеш тую душэўнасць, якая ў мяне ёсць, і нават зашмат. Эмоцыі захлістваюць мяне. Іншым разам штосьці не атрымаецца вакальна, але я заўсёды спяваю вельмі эмацыянальна. Зараз пільную ўвагу звяртаю на оперную, на старажытную музыку, якая настройвае на пэўны класічны лад. Камерны рэпертуар па-свойму складаны: там, як нідзе, ясна адчуваюцца твае тэхналагічныя вакальныя хібы. У камернай музыцы — шматфарбнасць, рознахарактарнасць... Каб усё гэта данесці, трэба валодаць сваім голасам і эмоцыямі. Пакуль жа, я лічу, з камерным рэпертуарам у мяне вельмі "афіцыйныя" адносіны.

**Вядома, што навучанне і творчасць забіраюць шмат часу. Чалавек староннi можа палічыць дзівацтвам, напрыклад, тое, што спевам неабходна аддаваць столькі каштоўнага часу, які можна было б выкарыстаць у іншых мэтах. Аднак...**

— Калі я пачала прафесійна займацца спевамі, яны зрабіліся маёй любоўю. Кнігі, тэатры, музеі — усё цяпер падпарадкавана аднаму: прафесійнай справе. Я знайшла сябе ў гэтым. Ёсць у мяне сям'я, маленькі сын. Як суадносіцца сямейнае жыццё з творчасцю? Проста так нічога не бывае. Усё наша жыццё — суцэльныя складанасці. Але сям'я — гэта самая прыемная перашкода.

**Алена ЯРАШЭВІЧ,**
**студэнтка Акадэміі музыкі**



*На здымку: Наста МАСКВІНА са сваім педагогам — Людмілай КОЛАС.*

ДАТЫ

# Дзівосны дар

## ДА 100-годдзя Івана КАЗЛОЎСКАГА

***Як толькі прамаўляеш імя Івана Казлоўскага, знаёмае многім аматарам мастацтва, адразу ўспамінаеш празрысты, серабрысты, роўны голас прыгожага пяшчотнага тэмбру. Гэты голас на працягу многіх дзесяцігоддзяў быў часткай нашага музычнага свету, саграваў, радаваў і прымушаў трапятаць душу.***



*На здымку: І. Казлоўскі (Альмавіва) з Т. Ніжнікавай (Разіна) у "Севільскім цырульніку" на сцэне ДАВТ Беларусі. 1955 г.*

Дагэтуль помню, з якім хваляваннем услухоўвалася ў гэты голас, пачуты тады з пласцінак, са старэнькага прыёмніка: гучалі "Я встретил вас...", "Вечерний звон", "Ах ты, ноченька", іншыя старадаўнія рамансы, арыі з опер. Асабліва запомнілася пласцінка, на якой была знакамітая арыя Ленскага "Куда, куда вы удалились..." У гэтай ролі І. Казлоўскі паказаў свой найрэдкі талент: ён умеў любіць, умеў гэтую любоў данесці да гледача.

На жаль, мне не ўдалося ўбачыць І. Казлоўскага ў спектаклях славутага Вялікага тэатра. Але я мела шчасце не толькі далучыцца да ягонай творчасці на юбілейным вечары, прысвечаным 80-годдзю спевака, а і некалькі разоў, калі вучылася ў Маскве, пабываць на яго сольных канцэртах у Вялікай зале маскоўскай кансерваторыі, пачуць найшырокі камерны рэпертуар гэтага цудоўнага вакаліста.

З якой элегантнасцю, шырынёй эмоцый, шматграннасцю настрояў выконваў ён тады рамансы М. Глінкі, А. Даргамыжскага, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, Ф. Шуберта, Ф. Ліста! Адметнымі гранямі зіхацеў талент артыста, калі ён звяртаўся да народных песень, і ў першую чаргу да мелодый сваёй роднай Украіны. А з якой абаяльнасцю спяваў старадаўнія рускія рамансы!

Тады я не была яшчэ знаёмая са спеваком, ён здаваўся мне незвычайным, недасягальным. І вось па шчаслівай выпадковасці апынулася я ў яго гасціннай маскоўскай кватэры на вуліцы Няжданавай. Хваляванне знікла адразу ж, калі я ўбачыла прыветнага, лагоднага чалавека, у вачах якога свяціліся незвычайная сардэчнасць і дабрыня. Мы гутарылі пра творчасць, паэзію, пра яго нядаўні канцэрт. Ён жыва цікавіўся маёй вучобай, прапанаваў тэмы для напісання курсавых работ, успамінаў свае гастролі ў Мінску, дзе ў яго было шмат сяброў і прыхільнікаў. Расказваў пра свайго сябра, вядомага С. Гейчанку, пра дарагі для іх куток — Міхайлаўскае. Дарэчы, менавіта там, на месцы пахавання А. С. Пушкіна ў Святагорскім манастыры, упершыню выконваў Іван Сямёнавіч забыты твор С. Рахманінава "Маналог Пімена".

Пазней неацэнную падтрымку аказаў мне І. Казлоўскі ў творчай камандзіроўцы ў Жытомір. Там была незабыўная сустрэча з сябрамі спевака. Яны расказалі, як у гады першай сусветнай вайны прыехаў у шумны горад над Дняпром таленавіты падлетак Ванечка Казлоўскі, якога адразу прынялі ў Таварыства артыстаў пры Кіеўскім народным доме. І як зусім маладзенькаму хлопчыку-спеваку цяжка тады жылося без падтрымкі. Вось і давялося акцёру Волкаву-Харытоненку пасяліць яго ў сябе і на правах старэйшага апекавацца. Сваю дружбу яны захавалі на ўсё жыццё. У 1960-м Казлоўскі прыязджаў у Жытомір на юбілей свайго сябра і разам з гледачамі спяваў у тэатры "Солнце низенько, вечер близенько"...

Так, Радзімай І. Казлоўскага была Украіна. Тут, у сяле Мар'янаўка непадалёк ад Белай Царквы, у сялянскай сям'і правёў ён свае дзіцячыя гады і да канца жыцця захаваў і асаблівае пачуццё да сваіх родных, простых працавітых людзей, і любоў да меладычнай украінскай мовы.

Давялося яму служыць у Чырвонай Арміі, удзельнічаць у спектаклях Палтаўскага перасоўнага музычнага тэатра (там выканаў сваю першую буйную партыю — Фауста), вучыцца ў Кіеўскім музычна-драматычным інстытуце па класе прафесара С. Мураўёвай, працаваць салістам Харкаўскага і Свярдлоўскага оперных тэатраў. Яго незвычайны талент быў заўважаны, і маладога спевака запрасілі ў Маскву, на сцэну знакамітага ва ўсім свеце Вялікага тэатра.

Мне расказвалі, што за год да смерці выдатнага спевака Леаніда Собінава ў яго развітальным юбілейным спектаклі ўдзельнічаў і Казлоўскі. І пры канцы імпрэзы Собінаў узяў маладога саліста за руку, разам з ім наблізіўся да рампы, зрабіў жэст у бок Казлоўскага, нібы намякаючы публіцы на свайго пераемніка. Зала гучнымі воплескамі прыняла гэты жэст. І адразу загаварылі, што з'явілася новая зорка першай велічыні.

Непаўторным быў Казлоўскі і ў оперных спектаклях, і ў канцэртным рэпертуары. Нават у паважным узросце ён упершыню выканаў цыкл "Серэнады" Бенджаміна Брытэна, пазнаёміў аўдыторыю з вялікімі новымі творамі маладых кампазітараў. А пра яго выключную працаздольнасць і ашчаднае стаўленне да голасу хадзіла мноства легенд...

***Лідзія БЯСПРОЗВАНАЯ,***
***даўняя чытачка "ЛіМа"***

ТЭАТР

# "Мы не паўтараемся..."

***З 8-га па 13-га красавіка жыхары сталіцы змогуць пазнаёміцца з Мінскім абласным драматычным тэатрам з Маладзечна. Напярэдадні гэтай падзеі наш карэспандэнт сустрэўся з мастацкім кіраўніком тэатра, заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь Мікалаем Мацкевічам.***

**— Мікалай Пятровіч, ваш тэатр фактычна ўпершыню прыязджае ў Мінск з такой насычанай праграмай. Вы прывозіце адразу шэсць спектакляў. Чаму такія гастролі сталіся магчымымі толькі зараз, а не, скажам, 3-4 гады назад?**

— Сапраўды, гэта нашы першыя шматдзённыя гастролі ў сталіцы. Чыста ў творчым плане яны маглі б адбыцца і значна раней. Перашкаджала фінансавае становішча, іншыя прычыны. Разам з тым, я не сказаў бы, што мінчане зусім незнаёмыя з нашым тэатрам, бо з аднадзённымі гастролямі мы наведвалі сталіцу неаднойчы. Так, на сцэне Тэатра юнага гледача мы ў свой час паказвалі "Двое на арэлях" У. Гібсана, на Купалаўскай сцэне — "Чорную нявесту" Ж. Ануя, на сцэне Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра, дзе мы будзем выступаць і зараз, — "Саламею і яе амаратаў" С. Кавалёва. Спадзяюся, што ў Мінску ўжо ёсць прыхільнікі нашага тэатра. Разлічваем на тое, што іх стане значна больш.

**— Скажыце колькі слоў пра тыя спектаклі, якія пабачаць мінчане.**

— Адкрываем гастролі спектаклем "Сэкс па перапісцы" па п'есе маладога беларускага драматурга Лявона Вашко. Мы першымі паставілі гэту п'есу і тым самым пазнаёмілі гледачоў з цікавым аўтарам, які ўмее нестандартна мысліць і пісаць. У Маладзечне спектакль нязменна збірае аншлагі. "Двое на арэлях" У. Гібсана ў нас ідзе некалькі гадоў. У спектаклі заняты заслужаная артыстка Беларусі В. Кавалерава і артыст Я. Іўковіч. Пастаноўка ўздымае вечныя пытанні адзіноты, узаемадапамогі, самаахвярнасці. Спектакль "Караль" па п'есе С. Мрожака паставіў В. Расстрыжэнкаў. У гэтай працы тэатр выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю. Спектакль скіраваны супраць канфармізму, які раз'ядае нашы душы. "Восем закаханых жанчын" — чыста жаночы спектакль, у ім няма ніводнай мужчынскай ролі. Па жанры — сямейны дэтэктыў. Спектакль "Вавілон" па п'есе А. Дударава — наша самая апошняя праца. Яе прэм'ера была прымеркавана да Міжнароднага дня тэатра. Маладзечанскі глядач прыняў яе на "ўра". Спадзяёмся на поспех і ў Мінску. Спектакль карысна было б паглядзець і чыноўнікам, каб зразумець, што ў нашым жыцці варта змяніць, з чым трэба змагацца. Часам мы змагаемся не з тым, з чым трэба. Для дзяцей мы прывозім "Чарадзейства ў краіне Оз" Г. Булыкі па матывах твораў Ф. Баўма. У спектаклі шмат пластычных нумароў, песень, музыку да якіх напісала А. Атрашкевіч. Наогул, як вы заўважылі, наш тэатр мае ўласны твар. Мы не паўтараем ніводнага мінскага тэатра.

**Гутарыў М. СЕРАФІМОВІЧ**

ПАМЯЦЬ

# Верны рыцар Беларусі

7 САКАВІКА дажджліва-пахмурным днём сябры і паплечнікі правялі ў апошні шлях Міколу Ермаловіча. Ён пры жыцці быў легендай нашага нацыянальнага Адраджэння. У іншых народаў і пры іншых абставінах такіх людзей пры жыцці аб'яўляюць нацыянальнымі героямі. Ды ён за славай і не гнаўся і на дзяржаўныя пашаноты не прэтэндаваў. Дастаткова было прызнання блізкіх па духу людзей ды ўсведамлення, што жыццё не марна пражыта, бо ўдалося дасягнуць такога, пра што ён да канца васьмідзесятых і не марыў. Маю на ўвазе не нейкія жыццёвыя даброты, якіх Мікола Іванавіч не толькі не меў, але і не прызнаваў. Усёй сваёй да апошняга дня апантанай сутнасцю быў заклапочаны іншым: як мага болей паспець зрабіць, годна давяршыць мэту свайго жыцця. Здавалася, можна і супакоіцца. Бо ён жа адзін узняў з небыцця велізарны пласт нацыянальнай гісторыі, зрабіў тое, што ў сілу аб'ектыўных прычын не здолеў здзейсніць ні акадэмічны інстытут гісторыі, ні разам узятыя (а іх дзесяткі) кафедры гісторыі пры вышэйшых навучальных установах. Яго асноўныя працы: "Па слядах аднаго міфа", "Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды", "Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд".

Пры напісанні гэтых кніг ён ішоў па цаліку, зацята адмаўляючы нацыянальны нігілізм і самаплюйства, упарта пераадольваючы ўсё, што паўставала на яго не тое што няпростым, а наўсцяж абстаўленым патырчакамі і заваламі драматычным шляху. Быццам вышэйшая сіла ўвесь час выпрабоўвала яго на нязломнасць і сілу духу. Пра гэта сказаў сам Мікола Іванавіч падчас вельмі грунтоўнай гаворкі са сваім паплечнікам, мастаком Уладзімірам Крукоўскім, якая надрукавана ў "Нашай Ніве" 28 лютага:

"Вы ведаеце, "Старажытная Беларусь" для мяне заўсёды будзе ў жалобнай рамцы. Як пачала "Маладосць" яе друкаваць, дык дзён за дзесяць да выхаду першага ўрыўка памерла мая маці. На 95-м годзе жыцьця. А перад заканчэньнем друкаваньня памерла жонка. Мне звоняць, каб я прыехаў карэктуру вычытаць, а я кажу: "Не магу, жонка ў труне ляжыць". Вось так".

А цяпер была завершана і здадзена ў выдавецтва праца яго жыцця ў найбольш шырокім і выверанымі варыянце, якая неўзабаве выйдзе кнігай пад назвай "Беларуская дзяржава. Вялікае княства Літоўскае". Але, трымаючы яе ў руках, мы, аднадумцы і паплечнікі, схілім галовы ў журбе і смутку, ды нізка, да самай зямлі, паклонімся гэтаму чалавеку, Беларусу з вялікай літары.

Мікола яшчэ хлапчуком пашкодзіў зрок і спакваля стаў па сутнасці невідушчым. Лекары ўвогуле забаранялі яму займацца навукай, нават чытаць, але ён, амаль сляпы, усведамляў, што куды страшней за слепату фізічную слепата духоўная. І з году ў год, з дня ў дзень ён садзіўся на электрычку і ехаў з Маладзечна ў Мінск, у нашае асноўнае кнігасховішча (цяпер Нацыянальная бібліятэка), падымаўся ў беларускую залу і сядаў за свой стол. Усяго на пару гадзін, бо больш проста фізічна было немагчыма. Дапамагалі, але не ратавалі адмысловыя акуляры са знарок дапасаванымі да ягоных вачэй лінзамі. Чытаў і пісаў ён своеасабліва: літаральна вадзіў акулярамі па паперы. Але варта яму было выйсці ў калідор, як яго тут жа абступалі сябры і знаёмыя, і тут Мікола Іванавіч раптоўна пераўвасабляўся ў палымянага, неспакойнага ў рухах і словах прамоўцу. Толькі аднаго-адзінага чалавека магу паставіць, назваць побач з ім, хто з такой апантанасцю кожнае імгненне, кожную хвілю быў напагатове ўступіць ці то ў спрэчку, ці то ў сяброўскі дыялог за Беларусь. Гэта Ларыса Геніюш.

З Міколам Іванавічам мяне пазнаёміў мой найдаражэйшы сябра аспіранцкай пары, чалавек тонкай паэтычнай душы, фенаменальнай памяці і глыбокага праніклівага розуму Рыгор Семашкевіч, які быў сябрам літаратурнага аб'яднання пры Маладзечанскай раённай газеце, куды наведваўся і Мікола Ермаловіч.

Для нас, студэнтаў, а потым і аспірантаў Мікола Іванавіч быў духоўным бацькам і бясспрэчным аўтарытэтам. Выхоўваліся мы найперш на беларускай перыёдыцы міжваеннага перыяду. Як заходнебеларускай, так і савецкай, якая тады ў асноўным была ў спецхранах, але нам, аспірантам, яе выдавалі ў адпаведнасці з падпісанымі навуковымі кіраўнікамі паперамі. А "Старажытную Беларусь" спазнавалі па рукапісе Міколы Ермаловіча. Яе стварэнне (напісанне) — гэта штосьці неверагоднае, на мяжы ірэальнага. Бо мала таго, што падымаліся замоўчаныя пласты беларускай гісторыі, дык жа і падтрымкі з боку афіцыйнай гістарыяграфіі не было ніякай. Больш таго, дзе маглі і як маглі, ігнаравалі, замоўчвалі, здзекаваліся. Гэта свае нібыта, каб на добры лад, пабрацімыгісторыкі. А былі ж яшчэ і "органы" — яўныя (партыйныя) і патаемныя. Пад наглядам "людзей нябачнага фронту" Мікола Іванавіч увесь час знаходзіўся — з ім неаднойчы праводзіліся так званыя прафілактычныя гаворкі: ушчувалі, перасцерагалі, раілі кінуць займацца "глупствам". "У 66-м годзе, — расказвае ён У. Крукоўскаму, — на нарадзе агітатараў у Маладэчне начальнік мясцовага КГБ Іваноў выступаў: "Вот и у нас завелось жывое ископаемое". І цытуе: "Вот посмотрите, что он говорил в 1948 году, в 49-м, в 50-м". Я тады зразумеў, што даўно пад каўпаком. У 84-м прыязджалі зь Менску да мяне: "До нас дошли сведения, что Вы пишете историю, в которой хотите доказать извечную самостоятельность Белоруссии". Я кажу: "Пішу, калі хочаце — пачытайце там і там фрагмэнты, ужо надрукаваныя". А яны: "А может, Вы нам дадите рукопись?" А я ім: "Як надрукую, тады і пачытаеце". Данос, па-мойму, быў з Інстытута гісторыі. Мне расказвалі, недзе яшчэ ў 81-м быў сход у інстытуце і Капыскі гаварыў: "Вы знаете, нам надо обратиться в ЦК партии, чтобы запретили печатать Ермаловича. Он нам мешает".

І якую ж сілу волі трэба было мець, які гарт у душы, як любіць Беларусь і яе народ, як верыць, што справядлівасць і праўда ўрэшце адолеюць хлусню, крyцельства і здзек над гістарычнай памяццю, каб, не зважаючы ні на што, угрызацца, як рудакоп, у пласты гісторыі, сляпіцца, усё больш страчваючы зрок, у бібліятэцы і спяшацца назад, дахаты, каб вечарамі зарабляць сабе і сям'і кавалак хлеба на пражыццё. "Пэнсія, ведаеце, 67 рублёў, а ў мяне, — расказвае ён, — сям'я, паспрабуй пражыві. Аформіўся ў таварыстве сляпых надомнікам. Клеіў кардонныя каробкі, неблагі быў даробак".

І колькі было непадробнай чалавечай радасці, калі адбыўся першы прарыў у беларускі афіцыйны друк! Гэта былі тэзісы выступлення (усяго невялікая старончка тэксту) у ратапрынтна выдадзеным навуковым зборніку. Прызнацца, я тады глядзеў на яго як на хлапчука, бо сам ужо друкаваўся і такіх, як Мікола Іванавіч, праблемаў не меў, значнасці гэтай, здавалася, ардынарнай падзеі не ўсведамляў. Ды лёд тады не толькі трэснуў, але і пайшоў — услед пачалі з'яўляцца артыкулы і рэцэнзіі ў "Нёмане", "Полымі", "Маладосці", "ЛіМе".

Паралельна з афіцыйнай працай над гісторыяй Беларусі ішла і іншая, патаемная літаратурная, самвыдавецкая праца. "У 60-я гады, — расказвае, — я ж яшчэ выдаваў рукапісны часопіс "Падсьнежнік". Пазьней, ужо ў 75—76 гадах, на падставе гэтых "Падсьнежнікаў" надрукаваў каля 50 нумароў "Гутаркі".

Заўважу, пару гадоў назад я быў загарэўся выдаць гэтыя гутаркі. Складаюцца яны з вершаў, прозы, а найбольш з публіцыстыкі. Зразумела, сёе-тое час адсеяў, сёння яно ўжо не мае ранейшай актуальнасці, у чым і была прычына таго, што мы з Міколам Іванавічам вырашылі адкласці задуму з выданнем на потым...

Шчаслівы тым, што непасрэдна прычыніўся да выдавецкага лёсу Міколы Іванавіча. Калі ён пачаў пры зацікаўленым спрыянні Генрыха Далідовіча друкаваць у "Маладосці" раздзелы "Старажытнай Беларусі", я тады працаваў загадчыкам рэдакцыі крытыкі і драматургіі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Часопіс добра, а кніга яшчэ лепей — падумаў сам сабе, падаў ідэю аўтару, чаму ён, зразумела, мог толькі ўзрадавацца. Побач са мной у рэдакцыі працаваў Сяргей Шупа. Ідэя выдаць "Старажытную Беларусь" яго захапіла. Спачатку мы нават нікому не казалі, што рыхтуем кнігу да выдання, якая не была профільнай для нашай рэдакцыі. Дзякаваць Богу, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" тады працавала адданае беларускай ідэі начальства і, прыплюшчыўшы вока, не толькі пагадзілася з нашымі намерамі, але і зрабіла належнае, каб кніга выйшла на высокім паліграфічным узроўні.

А я, апрача дзяржаўнай пасады, быў тады і кіраўніком Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". І добрую долю накладу замовіў на патрэбы гэтай грамадскай арганізацыі. Такім чынам "Старажытная Беларусь" трапіла ў шмат якія замежныя беларускія асяродкі. Але найбольш яе "асела" на Беласточчыне. Я падгаварыў Міколу Іванавіча і ён, нягледзячы на гады і зрок, пагадзіўся паўдзельнічаць у дабрачынным культурна-асветніцкім чыне на Беласточчыне. Мы заладавалі ў "Рафік" паўтысячы асобнікаў — і паехалі. Ды на мяжы нам нашы беларускія мытнікі сказалі стоп. Вярнуліся назад у Гародню. Я пайшоў да начальніка. Прозвішча яго абнадзейвала. Але ніякім ён сваяком ні Міхасю, ні Ігару Чарняўскім не быў. Хібо што сваяком па духу. Бо калі я яму паказаў "Старажытную Беларусь", ды патлумачыў, як яна будзе дарэчы беларускай вучнёўскай моладзі на Беласточчыне, ён адразу ж загаварыў пабеларуску, паціснуў мне руку і тут жа набраў патрэбны тэлефон...

Са зменай начальства ў "Мастацкай літаратуры" доступ туды Ермаловічу быў перакрытым. "Віленскі перыяд" старажытнай Беларусі я выдаваў, скажам так, ва ўласным выдавецтве "Бацькаўшчына". Кніга мела прыстойны, а як па цяперашнім часе дык для беларускамоўных выданняў проста велізарны наклад (25 тысяч асобнікаў), але разышлася вельмі хутка, дзякуючы папулярнасці імя аўтара.

Ганарар Міколу Ермаловічу я выплаціў па вышэйшай дзяржаўнай стаўцы. Апрача гэтага сказаў, што можа браць столькі кніг для дарчых надпісаў, колькі яму спатрэбіцца. І вось тут даводзілася гэтыя кнігі даваць яму амаль сілком і заўсёды чуць словы няёмкасці, словы прабачэння, што ён задарма бярэ тое, што каштуе грошы. І ў гэтым не было і каліва прытворства, позы, фармальных адгаворак, усведамлення, што не ён некаму, а кожны з нас і ўсе мы разам яму абавязаны, былі і будзем заўжды яму павіннымі...

Напісанае Міколам Іванавічам мы планавалі выдаць асобнай кнігай пад умоўнай назвай "Беларуская дзяржава". Сродкі на гэтае грунтоўнае выданне павінны былі паступіць ад рэалізацыі кніг "Адкуль наш род" Уладзіміра Арлова і "Беларусь на гістарычных скрыжаваннях" Янкі Запрудніка, гранты на выданне якіх былі атрыманы ад фонду Сораса. Ды напаткала нечаканка — дзейнасць фонду, як вядома, была на Беларусі забаронена, а я са сваім выдавецтвам трапіў пад гнеў уладаў.

Акрыяў і стаў на ногі толькі праз два гады. І зноў да Міколы Іванавіча з прапановай: давайце выдаваць "Беларускую дзяржаву". Ён жа толькі развёў рукамі. Выявілася, што за гэты час падпісаў дамову з прыватным выдаўцом Ваніным, паводле якой на працягу пэўнага часу толькі ён (Ванін) меў права выдаваць Ермаловіча.

— На здароўе, — кажу, — няхай выдае.

— Ды не, ведаеце, сцвярджае, што няма на гэта грошай...

— Дык навошта ж трэба было вам тую дамову заключаць...

— Каб жа я ведаў... Ён жа абяцаў...

І столькі роспачы, столькі болю было ў ягоным скрушлівым узрушэнні, што я проста перастаў даймаць роспытамі, ведаючы чыста жыццёвую, практычную непрыстасаванасць Міколы Іванавіча. А чаму Ванін узяўся, ды не выдаў Ермаловіча, для мяне і дасюль з'яўляецца загадкай: ягоная фірма мела прыстойныя абароты, карысталася выгаднымі заказамі ад навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі Беларусі і, такім чынам, выдаваць было за што.

Але ж неяк ён з тым Ваніным развязаўся, бо гады паўтара назад сам патэлефанаваў і сказаў мне пра гэта. Але сродкаў, на жаль, у мяне тады не было. Ды потым лёс сутыкнуў з Кастусём Тарасавым, кніга якога "Беларусь", як высветлілася, ужо гатовай праляжала некалькі гадоў без руху. І я ўзяўся дапамагчы, увайшоўшы ў хаўрус з выдавецкай структурай "Лекцыя". Вырашыў папрасіць дапамагчы фінансава ў выданні знаёмых мне людзей як тут, у Беларусі, так і сярод беларусаў замежжа. У першым выпадку, хоць звяртаўся вусна і рассылаў па ўстановах дзесяткі лістоў, адгукнуўся толькі пробашч касцёла святых Сымона і Алены, вядомы прыхільнік і спавядальнік беларушчыны ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, а вось дыяспара на покліч "Беларусі" аб дапамозе праявіла нават большую актыўнасць, чым я спадзяваўся. У дабрачыннай акцыі паўдзельнічалі такія тры аўтарытэтныя беларускія асяродкі, як Беларуска-Амерыканскі культурна-грамадскі цэнтр у Саўт-Рывэры ўключана з вернікамі прыналежнай да яго праваслаўнай царквы Еўфрасінні Полацкай, Беларуска-Амерыканскае задзіночанне і Федэральная Рада беларусаў Аўстраліі з цэнтрам у Мэльбурне. Ды мае часовыя хаўруснікі вырашылі на гэтым проста пагрэць сабе рукі. Імёны ахвярадаўцаў "Лекцыя", праігнараваўшы маю думку, у кнізе не пазначыла, а сабраныя грошы проста прапанавала падзяліць паміж мной і імі. У дачыненні ж да замежнікаў "хаўруснікі" са святой дзіцячай наіўнасцю заявілі: "Ну і што тут такое! Вядома ж, такі гераізм праявілі, што па пару дзесяткаў долараў з чалавека сабралі! Не пабяднелі! А імёны, калі ім так карціць, можна апублікаваць у "Голасе Радзімы", "Нашым слове", ці яшчэ дзе..."

Чуць такое мне было, мякка кажучы, непрыемна. І я на ўсе тры адрасы паведаміў, як мы іх "аддзячваем" за бескарысную дапамогу "Беларусі"... А потым падумаў, што якраз мо і добра, што так атрымалася, што ёсць магчымасць пераадрасаваць сабраныя дыяспарай грошы на выданне доўгачаканай кнігі Міколы Ермаловіча. Акрылены такой думкай, тэлефаную Міколу Іванавічу. Але ў ягоным адказе не радасць, а зноў роспач:

"Вой, вой, каб жа я, Яўген, ведаў... Вы ўжо выбачце, але ж я пасля той нашай размовы... Гэта ж каб ведаць! Ай-я-яй...

— Дык не перажывайце вы так, — гавару бадзёрым голасам. — Мо зноў Ванін падрадзіўся! Такое бяды. Абы выдаў...

— Ды ну яго з тым Ваніным! Гэта ж Кастусь Цвірка падмеўся...

— Цві-і-рка-а? — здзіўляюся я.

— Ага, ён! Ужо некалькі месяцаў назад. Кажа, што кніга ўжо набрана і нібыта нават будзе неўзабаве выдадзена...

— Ну то і добра! Але ж мы ж з ім сутыкаемся раз-пораз, ён жа павінен быў сказаць. Ці ён не ведае, што я, як выдавец "Віленскага перыяду" абаронены, як і вы, законам аб ахове аўтарскіх і выдавецкіх правоў, што без маёй, як і вашай, аўтара, згоды, ніхто не мае права гэты тэкст перавыдаваць...

— А ці ж я ведаю... Я ж, Яўген, нічога не ведаю, гэтых законаў, мне ж нічога не трэба, абы выйшла кніга. Я ж ужо і так зняверыўся яе дачакацца... А ты ўжо прабач! Ці ж я ведаў...

— Мікола Іванавіч, дарагі! Ды не бярыце вы ўсяго да галавы! А з Цвіркам — мы паразумеемся. Абы была кніга!..

ПераканаIны — будзе! Толькі што Мікола Іванавіч не парадуецца разам з намі, не патрымае яе ў руках, не прыкладзецца тварам да яе старонак...

Але досыць успамінаў і згадак. Час падумаць пра тое, як будзе ўшанавана памяць незвычайнага чалавека, які прысвяціў і да самага астатку аддаваў жыццё Беларусі.

Апрача "Беларускай дзяржавы", абавязкова патрэбен яшчэ адзін том, куды ўвойдзе "Па слядах аднаго міфа", згаданыя тут "Гутаркі", надрукаваныя і ненадрукаваныя ў перыёдыцы артыкулы і рэцэнзіі. Трэба неадкладна пачаць збіраць і пісаць успаміны з разлікам, каб выдаць такую кнігу да гадавіны смерці. Будучаму рэдактару хачу пажадаць быць строгім у адборы матэрыялу. Бо нават пахаванне і сказаныя там словы паказалі, што знойдзецца шмат добраахвотнікаў паказаць сябе вялікімі сябрамі, дбайнікамі і ахоўнікамі Міколы Іванавіча. Будзем шчырымі: так ужо рупліва Міколам Іванавічам ніхто не цікавіўся, дый ён сам гэтага не хацеў. Мне ён дазваляў сябе праводзіць толькі да метро. Увогуле стараўся не паказваць сваёй невідушчасці — заўсёды на мастацкіх выставах хадзіў ад адной карціны да другоай, хоць што ён там мог угледзець — аднаму Богу вядома.

Мне, так і не дачакаўшыся бацькі ў Маладзечна, куды ён павінен быў у нядзелю прыехаць, ужо з Мінска пасля 10 вечара патэлефанавала ягоная дачка і, душачыся слязамі, паведаміла трагічную вестку. Яна сапраўды нечаканая і заўчасная. Бо на свае семдзесят дзевяць Мікола Іванавіч не выглядаў, а ягоная мама, як памятаем, памерла ў дзевяноста пяць. Але ж яна была відушчай. А таму мо найперш трэба падзякаваць Богу, што чалавек у такім стане, не карыстаючыся кіёчкам-стукалкай, не прапускаючы ніводнай значнай грамадска-культурнай падзеі, столькі гадоў прахадзіў па тлумных мінскіх вуліцах і, наколькі мне вядома, ніколі не трапляў у аварыі. Іншая справа, што, на добры лад, пры такім чалавеку заўсёды павінен быў быць побач не проста павадыр, а павадыр-паплечнік. Такім яму была яго верная сяброўка жыцця, якая яму і чытала, і пісала пад дыктоўку і ўсюды разам з ім хадзіла. Але ж ёй не наканавана было дагледзець Міколу Іванавіча і ў старасці. Лёс яго выпрабоўваў на нязломнасць неаднойчы. І ён мужна праходзіў праз яго ўдары. А вось тады, пасля смерці жонкі, захістаўся і скалануўся нібы дрэва пад ударам маланкі. Роспач і страх перад будучыняй апанавалі яго. Але ўсведамленне таго, што ён не сам сабе належыць, а Беларусі, утрымала яго ад поўнай спаняверанасці і вярнула да актыўнага грамадскага і творчага жыцця. Гэта, паверце, не словы, бо так яно на самай справе і было. Тое, што Саюз пісьменнікаў дамогся яму кватэры ў Мінску, — парадавала, бо наблізіла да таго, чым ён увесь час жыў і чаго не мог спатоліць правінцыйны горад. Праўда, зноў жа каб на добры лад, кватэру тую маглі б улады даць і ў цэнтры Мінска, а не далёкім ад яго гарадскім ускрайку. Але Мікола Іванавіч на гэта і не прэтэндаваў... Прапаноўваю: вуліцу мала каму вядомага Рафіева пераназваць у вуліцу імя Міколы Ермаловіча, на якой ён жыў і дзе яго напаткала апошняя трагічная часіна. Апрача гэтага, яго імя абавязкова трэба прысвоіць вуліцам у родным Дзяржынску і ў маім родным Наваградку. Бо гэта ж найперш дзякуючы Міколу Ермаловічу мы пачалі ўсведамляць значнасць гэтага старажытнага горада для нашай гісторыі, для нашай свядомасці і памяці. У свой час я прапаноўваў тагачасным гарадскім уладам зрабіць Ермаловіча ганаровым жыхаром Наваградка, але ў тых былі свае арыенціры і свае ўлюбёнцы. Апрача назваў вуліц, зразумела, імя Міколы Ермаловіча можа быць нададзена культурна-асветным установам: школам, бібліятэкам і г.д. У тым ліку і беларускай зале нашай Нацыянальнай бібліятэкі, дзе ён так рупліва і самаадддана працаваў, выводзячы з небыцця "на свет цэлы" старажытную Беларусь, а заадно і навучаючы, выхоўваючы сваіх маладзейшых паплечнікаў, якія працавалі побач з ім.

Ужо сёння трэба падумаць і пра тое, каб яго ўскрылёная, надзвычай каларытная пастаць была ўвасоблена ў адмысловым помніку, выкананым не халтурным "шматстаночнікам", а Майстрам. Не будзе на гэта грошай у дзяржавы — такой бяды, абыдземся: аб'явім, як і ў выпадку з Ларысай Геніюш, народнае рушэнне і, пераканаы, патрэбная сума будзе сабрана...

Жывым жа — жыць. Такой змабілізаванасці духу і цэляў, якіх ён дамогся, дасягнуць не лёгка і не проста. Але імкнуцца да гэтага трэба. Зробленае ім абавязвае.

**Яўген ЛЕЦКА**

